ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 44 (2602)

5 лістапада 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

## З МІНСКА — У ШЫРОКІ СВЕТ

**Таварыства "Радзіма" з 26 кастрычніка да 5 лістапада 1998 года праводзіла чарговыя курсы аматараў мастацкай самадзейнасці**



**Стараюся прыгадаць, калі ж гэта адбыліся першыя курсы. Так і не ўспомніў дакладна, у якім годзе гэта было, прынамсі, болей за два дзесяткі гадоў назад. Згадваю толькі, як нараджалася гэта задума ў "Радзіме", як апаноўвалі сумненні: а ці паедуць!**

**Паехалі! І з кожным годам усё больш нашых суайчыннікаў мелі жаданне трапіць на курсы ўдасканалення мастацкай самадзейнасці. Прыязджалі літаральна з усіх канцоў зямлі — з блізкай Беласточчыны і далёкай Аргенціны.**

**Эдуарда Пянісі, кіраўнік балета "Івушка" з Буэнас-Айрэса, упершыню прыехаў на курсы ў Мінск дзесяць гадоў назад. Тады ён быў маладзейшы, выглядаў, як тыя хлопцы з яго трупы, якіх ён прывёз на заняткі сёлета. Усе яны вывучалі майстэрства танца, харэаграфіі ў Беларускім інстытуце праблем культуры.**

**А Сусану Фаерман, нашу суайчынніцу з Галандыі, больш цікавіла харавое дырыжыраванне. І яна вельмі рада, што "трапіла" ў рукі знакамітага прафесара Віктара Роўды.**

**Майстэрства, набытае нашымі суайчынніцамі ў Мінску, праявіцца ў хуткім часе на сцэнах грамадскіх цэнтраў беларускай дыяспары ў Аргенціне і Галандыі. Праявіцца ў песні і танцы, якія з пакалення ў пакаленне жывілі душу беларуса.**

**Ян ГІЛУЦЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: аргенцінская група курсантаў у час сяброўскай гутаркі ў таварыстве "Радзіма".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

## ПРЫПЫНАК — «ЛЯ СЯДЗІБЫ ВАЯВОДЫ»

Калісьці ў 30-я гады шчыраму прыхільніку паэзіі Міцкевіча экскурсавод тлумачыў, што тут, на Наваградчыне, трэба быць засяроджаным, каб не ўпусціць малейшых драбніц, асабліва, калі пад'язджаеш да Чамбрэва, адкуль паходзіць яго матуля, а затым возера Свіцязь... Тлумачэнні працягваюцца. Чытач, мабыць, зразумеў, паглыбіўшыся ў знаёмства з эпічным творам паэта — паэмай "Пан Тадэвуш", што тут варта спыніцца — затрымацца ў Варончы, таксама незвычайна маляўнічай мясцовасці, якая належала навагрудскаму ваяводзе Несялоўскаму. Пакарыстаемся перакладам Браніслава Тарашкевіча:



— А што бы сказаў Несялоўскі, стары ваявода, што гончых трымае

**НА ЗДЫМКУ: Адам МІЦКЕВІЧ і Марыля ВЕРАШЧАКА ў Варончы.**

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

ВЫСТАВЫ

## ДЗЕ ЯШЧЭ СУСТРЭНЕШСЯ З ІМІ?

Старажытны беларускі горад Гродна славіцца цудоўнымі помнікамі архітэктуры, вялікімі падзеямі, што адбываліся тут, і, вядома, выдатнымі людзьмі, без якіх немагчыма ўявіць не толькі гісторыю горада, але і ўсёй Беларусі, усяго Вялікага Княства Літоўскага. Памяць пра іх захавалі летапісы, кнігі, легенды, паданні... Чалавеку ж заўсёды хочацца не толькі ведаць, але і ўбачыць. Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей даў наведвальнікам магчымасць паглядзець на гістарычных асоб, пастаяць перад іх партрэтамі, падумаць, згадаць нашу слаўную мінуўшчыну.

"Вялікі гарадзенскі сабор II тысячагоддзя" — так называецца выстава работ мастака Уладзіміра Качана. Пачынаецца яна выявай старадаўняга Гродна. На ёй выразна відаць абрысы даўніны, якія захаваліся да нашых дзён.

У галерэі партрэтаў самых слынных гістарычных асоб, жыццё і дзейнасць якіх звязана з Гроднам, першым стаіць Стэфан Баторый. Апошнія трынаццаць месяцаў свайго жыцця (да снежня 1586 года) правеў ён у горадзе над Нёманам. А да гэтага актыўна ўдзельнічаў у палітычным

**НА ЗДЫМКУ: мастак Уладзімір КАЧАН.**

**(Заканчэнне на 7-й стар.)**



*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

## ВЫСТУПАЎ У АБАРОНУ РУСКАГА ЛЕСУ

Прачытаў у дзённіках Максіма Танка: "...У нас част агітуюць пісаць на вытворчыя тэмы. Мне здаецца, пакуль індустрыялізацыя будзе несці ў сабе экалагічную небяспеку і знішчэнне ўсяго жывога, яна не стане аб'ектам паэзіі".

Прачытаў і думаю зараз пра тое, што і да экалагічнай, прыроднай тэмы досыць няўважлівыя нашы пісьменнікі. Крыху ўскалыхнуў яшчэ літаратарскі корпус Чарнобыль. У паэзіі не кідае чарнобыльскай тэмы Мікола Мятліцкі. А вось прырода ўвогуле, экалагічная праблематыка... Хто без астатку сябе аддае гэтаму абсягу? Адзінкі. У паэзіі, мусіць, Хведар Гурыновіч. Для дзяцей піша празаік Рыгор Ігнаценка. Выдатны раман "Пушча" напісаў Віктар Карамазаў. Не чужая прырода Міколу Кусянкову, Васілю Жушму... І ўсё ж, і ўсё ж... Дзе Пparticle? Дзе Прышвіны? Дзе Сакаловы-Мікітавы? Дзе Аксакавы?..

Доўгі час у рускай літаратуры, у рускай прыродазнаўчай навуцы працаваў наш суродзіч — ураджэнец Полацка Дзмітрый Кайгародаў. Унікальнасць, адметнасць гэтай асобы найперш — у абсягах, у маштабах здзейсненага ім.

Нарадзіўся Дзмітрый Мікалаевіч 31 жніўня (а па новаму стылю — 12 верасня) 1846 года. Чым адметны быў тагачасны Полацк? Звернемся да кнігі знакамітага сучаснага палачаніна Уладзіміра Арлова "Таямніцы полацкай гісторыі", у якой ён расказвае і пра Полацкі кадэцкі корпус. "...У першыя дні хлопчыкі з задавальненнем займаліся "фронтам", асвойвалі сігналы, вучыліся танцаваць і спяваць хорам. Праграма называла гэтыя заняткі "приятными искусствами". Праз пару тыдняў навучальны камітэт наладзіў праверку ведаў па іншых, менш прыемных навуках. Высветлілася, што з 65 кадэтаў 37 зусім не ведаюць "французской азбуки", а 29 — "немецкой". Двое вызначаліся тым, што не ведалі

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*АФІЦЫЙНА*

### ДУХОЎНАЕ АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ ЦЕСНА ЗВЯЗАНА З ІМЕМ МІТРАПАЛІТА ФІЛАРЭТА



Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі 10 кастрычніка адзначыў дваццацігоддзе архіпастырскага служэння нашай краіне. У гісторыі Мінскай епархіі гэта другі такі выпадак пасля таго, як архіепіскап Міхаіл Галубовіч узначальваў праваслаўную царкву Паўночна-Заходніх зямель з 1848 па 1868 гады.

25 кастрычніка ў Мінскім епархіяльным упраўленні мітрапаліт прымаў віншаванні ад кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі. На цырымоніі прысутнічалі прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, старшыні дзвюх палат Нацыянальнага сходу Павел Шыпук і Анатоль Малафееў, іншыя афіцыйныя асобы.

У сваім выступленні Прэзідэнт краіны адзначыў вялікія заслугі Уладыкі ў аднаўленні на беларускай зямлі ўсіх гістарычна існаваўшых епархій, адраджэнні старажытных манастыроў, навучальных духоўных устаноў, брацтваў і храмаў. Велізарная роля мітрапаліта Філарэта і ў адраджэнні традыцыйнай для беларускага народа духоўнасці і маралі.

"На гэтай ніве дзейнасці ў поўнай меры раскрыліся Вашы бліскучыя таленты духоўнага настаўніка, арганізатара, умелага дыпламата і аўтарытэтнага палітычнага дзеяча", — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Ён таксама аддаў належнае энергіі, мудрасці Уладыкі, які змог наладзіць адкрыты і плённы дыялог паміж прадстаўнікамі розных канфесій.

Дзякуючы намаганням і падтрымцы мітрапаліта Філарэта, у краіне створана сістэма духоўнай адукацыі, наладжана супрацоўніцтва Царквы і Міністэрства адукацыі, што дапамагае засцерагчы беларусаў ад уплыву дэструктыўных сектаў.

Аляксандр Лукашэнка высока ацаніў ролю кіраўніка Беларускай Праваслаўнай царквы ва ўмацаванні і развіцці "саюза дзвюх", а таксама ў справе адзінства славянскіх народаў.

Гэтыя словы, а таксама пажаданні добрага здароўя, многіх гадоў жыцця і паспяховага прадаўжэння плённага служэння Праваслаўнай царкве і краіне, выказаныя Прэзідэнтам, былі з удзячнасцю прыняты мітрапалітам Філарэтам.

У сваім слове ў адказ ён выказаў удзячнасць за тую падтрымку, якую аказвае царкве дзяржава на ніве духоўнага адраджэння беларускага народа. Словы падзякі прагучалі таксама і ў адрас паплечнікаў кіраўніка Беларускай праваслаўнай царквы.

На думку мітрапаліта Філарэта, напярэдадні трэцяга тысячагоддзя Царква і народ павінны яшчэ больш цесна аб'яднаць духоўныя, маральныя, навуковыя сілы, каб дастойна сустрэць новае стагоддзе і працаваць далей на карысць дзяржавы і кожнага чалавека.



28 кастрычніка прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг азнаёміўся з экспазіцыяй выставы "Мэбля-99", якая будзе выпускацца беларускімі прадпрыемствамі ў наступным годзе.

НА ЗДЫМКУ: у час агляду выставы.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

*ДАЎГІ НАШЫ*

### ЗА ГАЗ ЗАПЛАЦІМ МЯСАМ

На суму 5,7 мільёна долараў ЗША Беларусь плануе ў чацвёртым квартале гэтага года адправіць прадукцыі жывёлагадоўлі ў Расійскую Федэрацыю ў кошт узаемаразлікаў з РАА "Газпрам". Разлік за пастаўлены газ будзе праводзіцца свінінай, сметанковым маслам, мяснымі і малочнымі кансервамі, а таксама кандытарскімі вырабамі.

*БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ*

### «ГАРЫЗОНТЫ» НА АЛТАІ

Вытворчае аб'яднанне "Гарызонт", "Інтэграл", МПА вылічальнай тэхнікі і АА "Барнаульскі радыёзавод" пачалі працу па стварэнні сумеснага прадпрыемства, якое будзе займацца зборкай, рэалізацыяй і гарантыйным абслугоўваннем беларускіх тэлевізараў і іншых складанатэхнічных тавараў. Гэта дазволіць беларускай прадукцыі замацавацца на рынку Алтая, а таксама дапаможа ўзняць вытворчасці ў даным расійскім рэгіёне.

*КУЛЬТУРА*

### ЭЛЕКТРОННАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

Беларускі інстытут праблем культуры пачаў працу над электроннай энцыклапедыяй культуры Беларусі. Гэта першая спроба расказаць аб духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народа ў мультымедыйнай форме, якая злучае ў сабе друкаванае слова, жывую мову, музыку, а таксама статычныя і рухомыя вобразы. Выданне будзе растыражавана на лазерных дысках і размешчана ў сістэме Інтэрнет.

*СІТУАЦЫЯ*

### ТЫФ У СЕМІНАРЫІ

Успышка брушнога тыфу — небяспечнага інфекцыйнага захворвання — зарэгістравана ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі. Як расказаў карэспандэнту БелТА намеснік міністра аховы здароўя Валерый Філонаў, двое семінарыстаў заразіліся ў Мінску, калі былі ў гасцях у аднакурсніка. У Жыровічы выехала група спецыялістаў Міністэрства аховы здароўя і Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Там праводзіцца комплекс процiэпідэмічных мер, у прыватнасці, усім семінарыстам часова забаронены выезд з навучальнай установы. Па словах Валерыя Філонава, сітуацыя ўзята пад строгі кантроль.

*ГОД МІЦКЕВІЧА*

### ПОМНІК У ГРОДНЕ

Да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча прымеркавана ўрачыстае адкрыццё бюста паэтагуманіста ў Гродне. На помніку, які выраблены на сродкі спонсараў і ахвяраванні насельніцтва, на беларускай і польскай мовах напісана: "Адаму Міцкевічу — удзячныя суайчыннікі".

*ЦЭНЫ*

### «ХАРЧОВЫ КОШЫК» ПАЦЯЖЭЎ

Як паказала чарговае даследаванне, праведзенае сацыяльна-эканамічным аддзелам Федэрацыі прафсаюзаў, з 20 верасня па 20 кастрычніка кошт "кошыка" з 25 асноўных прадуктаў харчавання па нормах мінімальнага спажывецкага бюджэту павялічыўся на 107,5 працэнта.

Такім чынам, усяго з пачатку нестабільнасці на фінансавых рынках СНД (з другой паловы жніўня) цэны на прадукты харчавання першай неабходнасці ўзраслі ў Беларусі прыкладна на чвэрць.

Паводле даных прафсаюзаў, зараз у сярэднім па краіне дзяржгандаль прапануе пакупнікам кілаграм жытняга хлеба па 14,1 тысячы, хлеба пшанічнага — па 24,7, макаронных вырабаў — па 54,6, круп — па 66,7, бульбы — па 12,6, ялавічыны — па 136,4, свініны — па 162,9, вараных каўбас — па 152,7, малака — па 9,8, масла — па 130,9, алею — па 206, цукру — па 46,4 тысячы рублёў. Як вынік, у цэлым па Беларусі "харчовы кошык" ацэньваецца ў 1 мільён 986,5 тысячы рублёў. Самым дарагім ён быў у Брэсце (2 мільёны 240,3 тысячы), Гомелі (2 мільёны 101,8 тысячы) і Мінску (2 мільёны 83,5 тысячы). Параўнальна танна прадукты харчавання каштавалі ў Магілёве (1 мільён 987,4 тысячы), Віцебску (1 мільён 972,7 тысячы) і Гродне (1 мільён 859,5 тысячы рублёў).

*ПРЭЗЕНТАЦЫЯ НОВАГА*
*АЎТАМАБІЛЯ ХУТКАЙ МЕДДАПАМОГІ*

### «ГІБКАЕ» ПРАДПРЫЕМСТВА ЗАБЯСПЕЧВАЕ ТЭХНІКАЙ

У Мінску адбылася прэзентацыя новага аўтамабіля хуткай медыцынскай дапамогі, створанага на базе грузавога фургона "Транзіт".

Асноўным пастаўшчыком аўтамабіляў хуткай медыцынскай дапамогі на тэрыторыі постсавецкай прасторы ў апошнія гады быў латвійскі завод РАФ. Аднак яшчэ летась завод быў спынены, а цяпер прызнаны банкрутам. Такім чынам, узнікла праблема забеспячэння медыцынскіх служб рэспублік былога СССР аўтамабілямі хуткай меддапамогі. Сёння ў Расіі выпускаюцца два тыпы аўтамабіляў, прыгодных для гэтай мэты — УАЗ і "Газель". Магутнасці Горкаўскага аўтазавода дазваляюць выпускаць 1 200—1 300 спецыялізаваных аўтамабіляў у год, Уральскі аўтазавод пастаўляе на рынак прыкладна 2 000, у той час як вывучэнне попыту па краінах СНД паказала, што патрэба ў машынах хуткай дапамогі складае прыблізна 7—8 тысяч. Зыходзячы з гэтай статыстыкі, было прынята рашэнне рабіць такія аўтамабілі на базе грузавога фургона "Транзіт", які выпускаецца на заводзе "Форд" у Абчаку пад Мінскам. З гэтай мэтай было створана беларуска-брытанскае прадпрыемства "Еўраканверс", якое ажыццявіла рэалізацыю гэтага праекта. Сёння пачата серыйная вытворчасць такіх машын, практычна завершана іх сертыфікацыя ў Расіі і Беларусі, прызнана, што аўтамабілі адпавядаюць не толькі айчынным, але і еўрапейскім стандартам, прынятым для тэхнікі такога тыпу. Салон аформлены матэрыяламі, што дазваляюць праводзіць дэзінфекцыю, у ім ёсць спецыяльная мэбля, канфігурацыю і камплектацыю якой можна ажыццяўляць па жаданні заказчыка. Прыкладна 60 працэнтаў камплектуючых, што выкарыстоўваюцца пры вырабе гэтага аўтамабіля, выпускаюцца на беларускіх прадпрыемствах, 30 працэнтаў — з Расіі і 10 працэнтаў — з далёкага замежжа.

"Хуткая дапамога" на базе аўтамабіля "Ford-Transit" выпускаецца ў трох выкананнях: гэта лінейная машына, прызначаная для транспартавання хворых без ажыццяўлення якой-небудзь сур'ёзнай тэрапіі ў час перавозкі. Другі тып — машына інтэнсіўнай тэрапіі, дзе неабходна прымяненне дэфібрылятара, кардыёграфа і іншай медыцынскай тэхнікі. Трэці тып — гэта рэанімабіль з высокім дахам на іншай колавай базе, прызначаны для больш сур'ёзных медыцынскіх маніпуляцый. Арыенціровачны кошт аўтамабіля — 16,5 тысячы долараў. Прыкладна столькі ж каштуе аўтамабіль хуткай дапамогі вытворчасці Горкаўскага аўтазавода, аднак ён, па прызнанні спецыялістаў, як па аснашчанасці, так і па эксплуатацыйных характарыстыках значна саступае "Ford-Transit". Што тычыцца заходніх аналагаў, то "хуткая дапамога" на базе "Мерседэса" каштуе 45—50 тысяч нямецкіх марак.

Па словах каардынатара па сувязях з грамадскасцю СП "Форд-Юніон" Дзмітрыя Мокшына, "калі раней асноўным вытворцам машын былі краіны далёкага і блізкага замежжа і беларускі бок зведваў цяжкасці з набыццём новай тэхнікі, то сёння нашы аўтамабілі можна браць у лізінг ці пад нашы стаўкі рэфінансавання. Гэта значна аблягчае задачу перааснашчэння новай тэхнікай рэспубліканскага парка машын хуткай медыцынскай дапамогі. У наступным годзе плануецца выпусціць ад 300 да 500 машын у год. Згодна з праведзеным маркетынгавым даследаваннем, патрэба Беларусі складае каля 300 машын у год. Частка з іх адправіцца за межы рэспублікі, так, ужо сёння рыхтуецца адпраўка партыі машын у Санкт-Пецярбург, вядуцца перагаворы аб пастаўцы аўтамабіляў у Чэлябінск і Новасібірск.

Аднак "хуткая дапамога" — гэта толькі першы варыянт спецаўтамабіля, вырабленага на базе "Ford-Transit". На сёння СП "Еўраканверс" выконвае шэраг заказаў для МУС, ужо створаны перасоўныя лабараторыі для сапёраў, тэхнічныя лабараторыі для ўнутраных войск, распрацаваны машыны сувязі, аператыўныя машыны для перавозкі затрыманых і работнікаў МУС. Таксама на базе "Ford-Transit" вядзецца распрацоўка пажарнай тэхнікі і браніраваных машын для інкасатараў, ужо выраблена некалькі аўтамабіляў бізнес-класа, у якім створаны камфартабельныя ўмовы для работы і адпачынку ў час працяглай камандзіроўкі.

"Мы — гібкае прадпрыемства і гатовы разгледзець любы зварот з просьбай вырабіць базавую мадэль у нестандартным выкананні, наколькі гэта дазволяць тэхнічныя магчымасці транспартнага сродку і здаровы сэнс", — сказаў Дзмітрый Мокшын.

Па словах Генеральнага дырэктара завода "Форд Юніон" Ніла Кэмпбела, асноўнай праблемай для прадпрыемства "Форд-Юніон" сёння стаў расійскі эканамічны крызіс, бо асноўным рынкам збыту для прадпрыемства была Расія, і таму падзенне курса рубля ў суседняй краіне негатыўна адбілася на працы завода. "Гэтая сітуацыя прымусіла нас ды і ўсю кампанію "Форд-Матор" шукаць іншыя рынкі збыту, куды мы сёння і пастаўляем прадукцыю, якая першапачаткова прызначалася для Расіі. Мы ажыццяўляем прамыя пастаўкі нашых аўтамабіляў у Егіпет, робяцца доследныя пастаўкі ў Сярэднюю Азію, Азербайджан і Казахстан. Акрамя таго, плануюцца пастаўкі ў Балгарыю і ў невялікіх аб'ёмах у дзяржавы Балтыі.

Мы дапускаем, што на гэтым рынку могуць з'явіцца канкурэнты, але думаем, што такое пытанне можа быць вырашана на тэндэрнай аснове".

Вераніка ЧАРКАСАВА.

НАШЫ ГАРАДЫ



# ЁСЦЬ ЧЫМ ГАНАРЫЦЦА

Ёсць мясціны, толькі адна назва якіх выклікае ў памяці аблічча чалавека, жыццё якога з імі звязана. Стоўбцы — горад Якуба Коласа. Тут, у невялікай вёсцы Акінчыцы, якая стала гарадской ускраінай, ён нарадзіўся. У доме яго бацькоў адкрыты філіял мінскага літаратурнага музея Я. Коласа. У ім сабрана шмат экспанатаў, што даюць уяўленне пра побыт таго часу, расказваюць пра жыццё лесніка Міхала Міцкевіча — бацькі песняра, яго сям'і.

А ёй даводзілася пераязджаць на новыя месцы службы Міхала — у Смольню, Ласток, Альбуць. Малы Кастусь добра зведаў лес, яго насельнікаў. У творах Я. Коласа шмат апісанняў прыроды. Яны лірычныя, шчырыя, у іх вялікая любоў да роднай зямлі.

**Мой родны кут, як ты мне мілы!..**
**Забыць цябе не маю сілы!**
**Не раз, утомлены дарогай,**
**Жыццём вясны мае убогай,**
**К табе я ў думках залятаю**
**І там душою спачываю.**

Альбо такое прызнанне:

**Заўсёды ў лесе добра мне.**
**У ім так ціха, урачыста,**
**Калі прытоіцца ўсё чыста**
**І ветрык нават не дыхне.**
**Заўсёды ў лесе добра мне.**

У паэмах "Новая зямля", "Сымон-музыка", у трылогіі "На ростанях", у іншых творах расказваецца пра мясціны, у якіх і сёння можна пабываць.

**Вось кончан лес, і Стоўбцы блізка.**
**Туман на возера лёг нізка,**
**Вада шумела каля млына,**
**Свістала голасна машына,**
**А там за возерам, як струнка,**
**Пралегла роўненька чыгунка.**
**Вось пераезд, даўно знаёмы;**
**Правей вакзальныя харомы.**

Амаль усё так і засталося. І лес, і возера, і вакзал, і чыгунка. Вось толькі млына няма, а замест паяздоў з паравозамі бегаюць электрычкі.

Якуб Колас неаднойчы прыязджаў на гэты вакзал і ад'язджаў з яго. І госці пісьменніка прыязджалі. У 1912 годзе ад гэтага вакзала да *Смольні ішоў пахатой Янка Купала.* Тады ўпершыню сустрэліся класікі беларускай літаратуры.

Сам горад, несумненна, змяніўся. Ён набыў сучаснае аблічча. Забудаваны шматпавярховымі дамамі. У паўночнай яго частцы размясціўся прамысловы вузел, з'явіліся філіялы мінскіх прадпрыемстваў. Для работнікаў пабудавана жыллё, магазіны, дзіцячыя сады, прадпрыемствы грамадскага харчавання... Адным словам, створаны нармальныя ўмовы для жыцця, работы, адпачынку.

Пры Доме культуры дзейнічаюць некалькі калектываў мастацкай самадзейнасці — агіттэатр "Полымя", аркестр народных інструментаў і іншыя. Ім прысвоены званні "народных". Каля паўстагоддзя аддала іх стварэнню дырэктар Дома культуры Дзіна Кухарава. Цяпер яна на пенсіі, але працягвае сваю любімую справу.

У горадзе добра развіты спорт. Спартыўную школу наведваюць сотні вучняў. З яе сцен выйшлі чэмпіёны і прызёры рэспубліканскіх спаборніцтваў, а Аляксандр Гоцкі ўдзельнічаў у Алімпійскіх гульнях.

Створаны ўмовы для развіцця юных талентаў. У розных гуртках вучні майструюць мадэлі самалётаў, караблёў, радыёпрыёмнікі, вучацца вязаць, фатаграфаваць, здымаць кінафільмы, маляваць... Музычную школу за 38 гадоў яе існавання скончылі каля тысячы чалавек.

У прыгараднай Старасвержанскай школе ёсць краязнаўчы музей. Яго экспанаты расказваюць пра гісторыю Стоўбцаў. А яна багатая. Першае ўпамінанне пра горад датуецца 1500 годам. У свой час ён належаў розным магнатам, у тым ліку Радзівілам.

Бацька Нёман аказаў значны ўплыў на развіццё горада, яго прамысловасці, гандлю, на занятак жыхароў. У мінулым стагоддзі тут была адна з галоўных прыстаняў на гэтай рацэ. З яе вывозілі збожжа, лес, пяньку, смалу, іншыя тавары. Тут будавалі рачныя судны.

Абозы з таварамі прыбывалі з Мінскай, Магілёўскай, іншых губерняў. Сельскагаспадарчая сыравіна вывозілася ў асноўным за мяжу. Так, за 1861—1866 гады купцы адправілі 1 358 плытоў і 984 судны. Толькі ў 1860 годзе было вывезена каля мільёна пудоў збожжа, гароху, льнянога семя, шмат пянькі, алею. Традыцыйнымі таварамі гандлю былі скура, шэрсць, рагожы, паташ, страявы і карабельны лес, мел, хмель, сала, мёд, цэгла.

У сямідзесятых гадах праз Стоўбцы праклалі чыгунку. Водны шлях паступова страчваў сваё значэнне. Горад заставаўся невялікім, у ім жыло каля трох тысяч чалавек. Працавалі лесапільны завод, запалкавая фабрыка, смалакурня і некаторыя іншыя дробныя прадпрыемствы.

Са Стоўбцамі звязана жыццё шэрагу выдатных людзей. У 1844 годзе ў вёску Залучча пераехаў з Нясвіжа польска-беларускі паэт



Уладзіслаў Сыракомля. Тут ён пражыў восем гадоў, шмат напісаў, намаляваў горкую карціну беспрасветнага жыцця народа.

У падарожным нарысе "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах" У. Сыракомля расказаў і пра Стоўбцы: "Пры самым уездзе каля Нёмана пачынаюцца шэрагі купецкіх свірнаў. Летам тут пуста і глуха. Але зімой і пад вясну, калі саннай дарогай лёгка дастаўляць тавары, прызначаныя для адпраўкі ў Крулявец, — што тут галасу, што людзей, што фур з усіх канцоў краіны і з усялякім таварам! Сустрэнеш тут і нашага селяніна са Случчыны і з Наваградчыны са збажынаю, і палешука з адзінай, характэрнай для яго краю прадукцыяй — рагожамі, і валыняніна з прыправамі, і беларусіна з ільном ці пянькой, і велікарусіна з алеем. Усё гэта тутэйшыя віціны павінны забраць і завезці на спажытак немцам. А што мы будзем мець ад іх узамен? Некалькі сотняў бочак селядцоў, некалькі дзесяткаў бочак віна і трохі грошай".

Пісьменнік у раздзеле "Стоўбцы" расказаў пра гісторыю горада, пра культавыя будынкі і іх знешняе і ўнутранае аздабленне, пра тых, хто валодаў Стоўбцамі і наваколлем.

Лепшыя традыцыі У. Сыракомлі працягваў і развіваў Вінцэсь Каратынскі. Ён працаваў хатнім настаўнікам і сакратаром У. Сыракомлі, затым журналістам у Вільні, Варшаве, друкаваў артыкулы і вершы пра Беларусь, пісаў і па-беларуску. Выдаў збор твораў свайго сябра і настаўніка У. Сыракомлі ў дзесяці тамах.

Карусь Каганец нарадзіўся ў сям'і ўдзельніка паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў 1868 годзе ў Сібіры. Адзінаццацігадовым падлеткам пераехаў у Беларусь. Пісьменнік, мастак, скульптар. Напісаў вадэвіль "Модны шляхцюк", драмы "Старажовы курган", "Сын Даніла", "У іншым шчасце няшчасце схавана", камедыю "Двойчы прапілі", іншыя мастацкія і публіцыстычныя творы. Аформіў вокладку кнігі Я. Коласа "Другое чытанне для дзяцей беларусаў".

Плённа працуюць і маладзейшыя літаратары цяперашняга пакалення. Гэта празаік Генрых Далідовіч, паэты Мікола Маляўка, Алесь Камароўскі і іншыя.

Стаўбцоўшчына — радзіма вядомых дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў. Язэп Лёсік — аўтар шэрагу літаратурных твораў, падручнікаў на беларускай мове. За ўдзел у рэвалюцыйным руху быў сасланы ў Сібір. Пасля кастрычніцкага перавароту ў 1917 годзе займаў шэраг адказных пасад, рэдагаваў перыядычныя выданні.

Аляксандр Сянкевіч таксама з Мікалаеўшчыны. Ён адзін з арганізатараў настаўніцкага з'езда, які прайшоў на беразе Нёмана ў 1906 годзе і ў якім удзельнічалі Якуб Колас і Янка Маўр. Эмігрыраваў у ЗША, набыў спецыяльнасць урача. Пасля 1917 года вярнуўся на Далёкі Усход, загадваў партызанскім шпіталем. Працаваў на адказных пасадах у Беларусі, Маскве. Яму пашанцавала стаць прататыпам Сташынскага ў рамане А. Фадзеева "Разгром", Садовіча — у рамане Я. Коласа "На ростанях".

— Наогул Стаўбцоўшчына дала шмат знакамітых людзей, — расказаў загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкома Анатоль Грэкаў. — Сярод іх шэсць акадэмікаў, чатырнаццаць дактароў навук, шэсцьдзесят шэсць кандыдатаў навук, трыццаць дзевяць заслужаных работнікаў, тры рэктары ВНУ, дзевяць рэдактараў газет і часопісаў, пяць міністраў.

Што ж, ёсць чым і ёсць кім ганарыцца стаўбцоўскай зямлі.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ:** сённяшнія Стоўбцы.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



У МІНСКУ АДБЫЛОСЯ СВЯТА-КОНКУРС "ЛАЗОВЫЯ КАРУНКІ"

# ВЫГАДНАЕ ЎКЛАДАННЕ ГРОШАЙ

24 кастрычніка Саюз майстроў народнай творчасці сумесна з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь правёў у Палацы прафсаюзаў І Рэспубліканскае свята-конкурс лозапляцення "Лазовыя карункі". Гэтае свята працягвае заснаваную Саюзам майстроў народнай творчасці традыцыю правядзення спецыялізаваных святаў па розных відах народных рамёстваў. Ужо прайшлі святы ганчарства, саломапляцення. Саюз майстроў народнай творчасці распрацаваў на наступныя 5 гадоў праграму святаў народных рамёстваў.

У свяце-конкурсе ўдзельнічала каля 40 чалавек з розных абласцей Беларусі. Частка з іх — пераможцы абласных конкурсаў лозапляцення. У некаторых абласцях, дзе такіх конкурсаў не адбылося, проста адабралі лепшых майстроў для ўдзелу ў рэспубліканскім свяце.

Цікава, што ў конкурсе прынялі ўдзел і маладыя, і сталыя майстры, сем'і. Па словах старшыні Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, лозапляценню як віду народнай творчасці пашанцавала: яго традыцыі ніколі не перарываліся ў адрозненне ад некаторых іншых відаў рамёстваў. Тым не менш гадоў 20—30 таму гэты від народнага мастацтва лічыўся састарэлым. Сёння ж моладзь не саромеецца займацца народнымі мастацтвамі. На свае вочы ў гэтым мог пераканацца кожны, хто трапіў на выставу-конкурс. Згадзіцеся: адна справа ўбачыць прыгожыя вырабы з лазы (а былі тут дзіцячая вельмі ўтульная і прыгожая калыска, крэслы, канапа, самавар і нават туфлі на абцасах), а іншая справа ўбачыць, як майстра бярэ адзін лазовы пруцік, другі, чаруе з імі — і пры вас нараджаецца цудоўная рэч — ваза, пано. На вачах у гледачоў майстры па свайму выбару за 1 гадзіну стваралі плоскую рэч, за 3 — выраб аб'ёмнай формы. Па выніках працы былі прысуджаны 1, 2 і 3 прэміі 18-ці ўдзельнікам па наступных намінацыях: "Плоскі выраб", "Аб'ёмны выраб", "Сямейны калектыў", "Хатняя калекцыя". Кожны ўдзельнік свята-конкурсу атрымаў грамату і памятны медаль.

Мне здаецца, што галоўную ідэю свята выказаў Яўген Сахута: "Шматлікія святы народнага мастацтва, у якіх мне прыйшлося ўдзельнічаць, насілі пераважна фальклорна-сцэнічны характар. Майстры ж былі нейкім дапаўненнем да іх, фонам. Наша ж свята — уласна для майстра, дзе ён гаспадар, цэнтр увагі. Народныя святы ўздымаюць статус майстра ў

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ВЫСТУПАЎ У АБАРОНУ РУСКАГА ЛЕСУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

амаль нічога і з цяжкасцю разбіралі расейскі тэкст. Згодна з падрыхтоўкай, выхаванцаў падзялілі на тры класы.

Расклад уключаў закон Божы, названыя раней мовы, арыфметыку, алгебру, геаграфію, гісторыю, чыстапісанне і маляванне. На тыдзень прыпадала 24 урокі па паўтары гадзіны. Кіраўніцтва раіла педагогам звярнуць увагу на правільнасць чытання і маўлення, "так как большинство поступивших детей из губерний белорусских с грубым местным наречием". Каб як мага дакладней вызначаць узровень ведаў, у карпусах існавала 12-бальная сістэма ацэнак.

Педагагічны арсенал кадэцкіх настаўнікаў у параўнанні з вынаходнікамі іхніх папярэднікаў езуітаў выглядае досыць убога. У класах стаялі чырвоныя і чорныя дошкі, куды запісвалі прозвішчы выдатнікаў і тых, чые веды цяжка было ацаніць нават пяцёркай. Калі ў клас заходзіў нехта з начальства, вучні станавіліся кожны каля сваёй дошкі. За нядбайнасць кадэтаў маглі на тыдзень ці два пазбавіць адной з найсмачнейшых страў, прычым у сталоўцы пакараным загадвалі стаяць і глядзець, як таварышы ядуць гэтую смакату...

Дырэктарам Полацкага кадэцкага корпуса быў генерал-маёр Мадэст Чыгір. А матэматыку выкладаў бацька Дзмітрыя — генерал-маёр Нічыпар Кайгародаў, які паходзіў з санкт-пецярбургскіх дваран. У 1856 годзе бацька і Дзмітрыя прывёў у корпус. Вучыўся тут юнак да 1863 года. Відавочна, маладога чалавека так ці інакш закранулі падзеі, звязаныя з паўстаннем пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Бо ўжо ў сталым узросце Дзмітрый Нічыпаравіч надрукуе ўспаміны "З часоў польскага паўстання 1863 г. (Успаміны старога палачаніна)" — у 1907 годзе ў часопісе "Исторический вестник". У 1863 годзе Кайгародаў паступіў у 2-е Канстанцінаўскае ваеннае вучылішча. У 1864-м пераведзены партупей-юнкерам у Міхайлаўскае артылерыйскае вучылішча. У 1865 годзе Кайгародаў атрымлівае чын падпаручніка з прызначэннем у 3-ю Коннаартылерыйскую брыгаду (месца дыслакацыі — Царства Польскае). Пасля двух гадоў службы Дзмітрый Нічыпаравіч быў накіраваны на Ахтэнскі парахавы завод з залічэннем па палявой артылерыі. У тым жа годзе Кайгародаву прысвоілі чын паручніка. Не кідаючы службы, малады чалавек у 1868 годзе паступае вольным слухачом у Пецярбургскі земляробчы інстытут. Відавочна, пачала пераадольваць цяга да прыроды, да зямлі, да дзейснай працы на ёй.

У 1872 годзе, будучы яшчэ афіцэрам, Кайгародаў заканчвае курс універсітэта па лясному факультэту. Выкладчыкі заўважылі здольнага вольнага слухача. Дзмітрыя зацвярджаюць у званні кандыдата. У наступным годзе па запыту Ляснога дэпартамента Кайгародава пераводзяць у Корпус ляснічых. І адразу ж — камандзіроўка за мяжу для ўдасканальвання ведаў, для авалодвання невядомымі дагэтуль практычнымі навыкамі. У пяці краінах вывучае наш суродзіч лясную справу на працягу двух гадоў — у Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Швецыі і Францыі. Пасля вяртання з доўгатэрміновай камандзіроўкі Кайгародава прыкамандзіроўваюць да Земляробчага інстытута (з 1881 года — Лясны інстытут) чытаць лекцыі па лясной тэхналогіі і інжынернаму мастацтву. Варта нагадаць, што па тым часе (1875 год) маладому выкладчыку няма і трыццаці гадоў. У 1882 годзе Кайгародаў ужо прафесар. У 1887—1891 займае пасаду памочніка дырэктара Лясного інстытута. У кастрычніку 1905-га Кайгародаў звальняецца па ўласнаму жаданню.

Адна з адмецін біяграфіі Дзмітрыя Нічыпаравіча — яго педагагічная, выкладчыцкая дзейнасць для дзяцей у царскай сям'і. У 1889—1891 гадах выкладае прыродазнаўчую гісторыю вялікаму князю Міхаілу Аляксандравічу. У 1893—1899 — вялікай княгіні Вользе Аляксандраўне. Пасля — дзецям вялікага князя Канстанціна Канстанцінавіча.

Кайгародаў — адзін з заснавальнікаў Руската таварыства светазнаўства. Арганізатар і кіраўнік феналагічнага аддзела таварыства. Акрамя гэтага, Кайгародаў быў сапраўдным членам і старшынёй феналагічнай камісіі Рускага геаграфічнага таварыства. Што цікава, пачынаючы з 1871-га і да канца жыцця, вёў феналагічныя запісы ў ваколіцах Пецярбурга (і гэта на працягу амаль 53 гадоў!). Вось дзе сапраўдная феналагічная, прыродазнаўчая энцыклапедыя! У 1895 годзе Дзмітрый Нічыпаравіч стварыў феналагічную сетку для правядзення біякліматычнага раяніравання Еўрапейскай часткі Расіі. Склаў Кайгародаў і феналагічныя карты вясенняга прылёту птушак.

З 1887 года Дзмітрый Нічыпаравіч чытаў лекцыі ў народнай аўдыторыі Педагагічнага музея ваенна-вучэбных устаноў у Салянім гарадку ў Пецярбургу. Некаторыя з лекцый былі выдадзены асобнымі кніжкамі. Рэгулярна выступаў вучоны і ў перыядычных выданнях — у газеце "Новое время", часопісах "Мир божий", "Русская школа", "Вестник садоводчества" і іншых. Публіцыстычна, па-грамадзянску востра выступаў Кайгародаў супраць варварскай вырубкі, супраць варварскага знішчэння рускага лесу. У 1882 годзе ў Маскве праходзіць Усерасійскі з'езд лясаўладальнікаў, гаспадароў лесу. Кайгародаў чытае там даклад аб прыродаахоўным значэнні лесу, пра магчымыя наступствы пасля яго знішчэння.

Відавочна, Дзмітрыем Нічыпаравічам ва ўсіх справах, памкненнях кіравала жаданне абараніць прыроду, зрабіць усё магчымае, каб прыцягнуць увагу чалавека да болю лясных ваколіц, малых рэк, да болю звяроў, безабаронных птушак. Мо таму нават і для дзяцей пачаў пісаць Кайгародаў аб прыродзе. Казкі вучонага, фенолага, арнітолага, яго апавяданні, мініяцюры пра расліны і жывёльны свет друкаваліся ў дзіцячых часопісах "Игрушечка", "Родник", "Семейные вечера". Дарэчы, Кайгародаў быў заснавальнікам і экскурсійнага метаду навучання, які дазваляе выхаваць у школьнікаў цікавасць, любоў да навакольнай прыроды. Асабліва важным Дзмітрый Нічыпаравіч лічыў развіццё любві да прыроды ў гараджан. Асобным выданнем у Санкт-Пецярбургу ў 1899 годзе пабачыў свет "Дзённік пецярбургскай вясенняй і асенняй прыроды..." Кайгародава. Крытыка адзначыла, што аўтар мае "безумоўны паэтычны дар", стварае "яскравую, жывую карціну паўночнай прыроды". Асаблівы поспех у чытача мелі "Гутаркі пра рускі лес". 9-е іх выданне пабачыла свет пад назвай "Гутаркі пра лес". І яны за 34 гады (упершыню выдадзены ў 1882 годзе) пабачылі свет 10-цццю выданнямі. Неадпойчы выдаваліся і іншыя кнігі Кайгародава — "З зялёнага царства", "З царства пярнатых. Папулярныя нарысы з свету рускіх птушак", "Дрэва і яго жыццё", "Нашы вясеннія кветкі", "Нашы асеннія кветкі". Вядомы бібліяфіл, бібліёграф Мікалай Рубакін у рэцэнзіі на кнігу пра варон "Чорная сям'я" заўважыў "жывізну і захапляльнасць апавядання", якія, на яго погляд, у значнай ступені дасягнуты зваротам Кайгародава да паговорак, прымавак, вершаў, загадак. Часопіс "Мир божий" пра тую ж кнігу напісаў: "...Па паўнаце апісання і па маляўнічасці мовы... адна з лепшых папулярызацый у сваёй галіне".

Знаёмства з біяграфіяй Дзмітрыя Кайгародава пераконвае: наш суродзіч быў асобай унікальнай, надзеленай Богам, прыродай многімі талентамі. Ды, пэўна ж, і вучоба ў Полацкім кадэцкім корпусе не прайшла дарма. Праз усё жыццё вучоны і літаратар цікавіўся жывапісам, музыкай, асабліва творчасцю Пятра Чайкоўскага. У 1907 годзе на сходзе гуртка імя Я. Палонскага прачытаў біяграфічны эцюд — "П. І. Чайкоўскі і прырода" (асобнае выданне — Санкт-Пецярбург, 1907). Кайгародаў усямерна падкрэсліваў, што прырода з'яўляецца крыніцай музычнага, паэтычнага натхнення, творчасці ўвогуле.

Памёр наш суродзіч у лютым 1924 года. Пахаваны ў парку Лясного інстытута. Як помнік Кайгародаву — і гэтае прызнанне яго заслуг: "...безумоўна, належыць да шэрагу рэдкіх папулярызатараў навукі, якія ўмеюць зацікавіць дзяцей, адразу паўплываць на іх розум і пачуцці, закрануць і прыцягнуць да сябе дзіцячыя сімпатыі".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*НАМ ПІШУЦЬ*

# ТАК ТРЭБА ЖЫЦЬ

**Прыступім адважна да дзела,**
**Пачнём Беларусь будаваць:**
**Усе, як адзін, дружна, смела**
**Да працы павінны мы стаць.**

Станіслаў СТАНКЕВІЧ.

1989 год. У цесным коле сяброў сціпла адзначылі 70 гадоў Віленскай беларускай гімназіі. Тады толькі пачыналі гаварыць услых, што была ў Вільні такая гімназія. Сярод нямногіх, хто вучыўся ў ёй, быў і Яраслаў Станкевіч на святкаванні юбілейнай даты, некалькі асоб моладзі, каго пачала цікавіць беларуская гісторыя Вільні. Яраслаў Станкевіч быў вучнем гімназіі некалькі пасляваенных гадоў.

Нарадзіўся ён у Вільні ў 1929 годзе ў сям'і беларускага асветніка, кнігара, паэта. Бацька, Станіслаў Станкевіч, паходзіў з вёскі Арляняты Ашмянскага павета Віленскай губерні. Рана застаўся сіратою, паехаў у Пецярбург самастойна здабываць асвету, там пазнаёміўся з беларускімі дзеячамі, у тым ліку і з вядомым заснавальнікам суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца". Пасля кастрычніцкіх падзей вярнуўся ў родную вёску, дзе адразу ўключыўся ў грамадскую працу, але за беларускасць быў змушаны пакінуць вёску і пераехаць у Вільню. Тут ён пачаў працаваць у кнігарні Беларускага таварыства, а ў 1926 годзе адкрыў сваю па вуліцы Вострабрамскай, 2. У тым жа годзе разам з беларускай пісьменніцай Зоськай Верас пачаў выдаваць беларускія адрыўныя календары, якія даходзілі ў беларускія вёскі. Такім чынам праводзілі асвету сярод сялянства. Кнігарня налічвала больш 350 кніг і розныя беларускія газеты і часопісы, якія выходзілі ў той час у Вільні: "Шлях Моладзі", "Калосьсе" "Belaruskaja Krynica", "Praleski" і іншыя. У кнігарні можна было набыць і партрэты беларускіх пісьменнікаў.

1944 год. Наступіў цяжкі перыяд. Падчас адступлення немцаў на вачах у гаспадара згарэла кнігарня, а разам з ёю і каштоўныя беларускія выданні. Была спроба ў 1945 годзе аднавіць кнігарню, але гэта не ўдалося. У Вільні выйшлі два зборнікі вершаў Станіслава Станкевіча "Смех ня грэх" і "З майго ваконца". У 1945 годзе Станіслава Станкевіча арыштавалі, канфіскавалі яго кнігі. Прысудзілі да 10 гадоў зняволення і саслалі ў Перм. Вярнуўся з падарваным здароўем у 1954 годзе, памёр у 1964-м, пахаваны на могілках Росы. На сціплым помніку надпіс на беларускай мове: "Святой памяці Станіслаў Станкевіч. Беларускі асветнік. 1886—1964. Душы яго неба".

"Сам ён лепшай долі не дачакаўся, але выгадаваў дзяцей, беларусаў-віленчукоў, дачку Міраславу і сына Яраслава, шчырых патрыётаў. Ёсць ужо ўнукі і праўнукі, — мо ім доля ўсміхнецца, мо яны здолеюць захаваць віленскую беларушчыну?" — напісаў у сваёй кнізе "Вандроўкі па Вільні" Лявон Луцкевіч. Вось у такой свядомай, інтэлігентнай беларускай сям'і нарадзіўся Яраслаў Станкевіч. Выхаванне, прыклад бацькі паўплывалі на далейшы лёс Яраслава. "Падчас другой сусветнай вайны маці з дзецьмі была эвакуіравана ў Беларусь, там хадзіў у вясковую беларускую школу за некалькі кіламетраў у марозную зіму", — успамінае Яраслаў Станкевіч. Потым была Віленская беларуская гімназія, Віленскі універсітэт — хімічны факультэт. Пасля сканчэння універсітэта Яраслаў Станіслававіч працуе ў школах Вільні, выкладае хімію ў рускай, польскай школе імя У. Сыракомлі і, нарэшце, у беларускай імя Францішка Скарыны. Амаль пяцьдзесят гадоў сеяў "разумнае, добрае, вечнае". Вучні яго памятаюць і любяць.

Паважаюць Я. Станкевіча і калегі па працы, у яго вучацца, ім ганарацца. У школе імя Ф. Скарыны ён адзіны настаўнік, які мае вышэйшую катэгорыю — метадыста, найлепш абсталяваны кабінет хіміі, там жа вісіць грамата, атрыманая Я. Станкевічам ад польскіх улад. Ён падрыхтаваў і выдаў беларуска-літоўскі слоўнік хімічных тэрмінаў, зборнік задач па неарганічнай хіміі. У беларускай школе вучыцца і ўнук Яраслава Станіслававіча Уладзімір. Яраслаў Станіслававіч не толькі хімію выкладае ў школе, а і вучыць гульні ў шахматы — захапленне яго жыцця, мае багатую бібліятэку прафесійнай літаратуры па шахматах. А як яго чакаюць вучні ў дзень заняткаў шахматамі, для іх гэта сапраўднае свята. Такое ў іх паразуменне, агульнае прыцягненне і захапленне.

Я. Станкевіч — старшыня школьнай рады, ён актыўна ўдзельнічае ў розных імпрэзах, якія наладжваюцца беларусамі Віленшчыны.

**Леакадзія МІЛАШ.**



**НА ЗДЫМКУ: вучні школы імя Ф. Скарыны на занятках па шахматах з Яраславам СТАНКЕВІЧАМ. Верасень 1998 г.**

## ХТО КОЛЬКІ МАЕ

Усяго па народнай гаспадарцы Беларусі, згодна з апошнімі данымі Міністэрства статыстыкі рэспублікі, налічаная сярэднямесячная зарплата ў верасні склала 4 мільёны 663,6 тысячы рублёў. Па-ранейшаму нізкім гэты паказчык застаецца ў калгаснікаў — 2 мільёны 634,1 тысячы рублёў. У рабочых і служачых ён крыху вышэйшы за рэспубліканскі — 4 мільёны 933,4 тысячы рублёў.

Калі браць расклад па прафесійных сферах, то больш за ўсіх у верасні атрымалі работнікі банкаў — у сярэднім па 9 мільёнаў 204 тысячы рублёў і супрацоўнікі судовых і юрыдычных устаноў — па 5 мільёнаў 851,6 тысячы рублёў. У сферы матэрыяльнай вытворчасці лепш за астатніх выглядаюць будаўнікі — у іх сярэдняя зарплата 6 мільёнаў 572,2 тысячы рублёў, за імі ідуць авіятары — 6 мільёнаў 371,4 тысячы рублёў, рабочыя прамысловасці — 5 мільёнаў 945,7 тысячы рублёў.

*НАМ ПІШУЦЬ*

# У БЕЛАРУСАЎ ШАЛЬЧЫНІНКАЯ




**Беларусы Літвы не забываюць пра сваё паходжанне, імкнуцца захаваць сваю спадчыну. Пра тое, як і чым жывуць беларусы Шальчынінкая, наш спецыяльны карэспандэнт гутарыць з дырэктарам Беларускага культурнага цэнтра імя Барыса Кіта Пятром МАЛАФЕЕМ:**

— Мы пачыналі нашу дзейнасць у 1989 годзе з аб'яднання "Вежа". Канечне, сутыкаліся з вялікімі складанасцямі. Але на базе той суполкі ў рэшце рэшт і наспеў праект нашага цэнтра. І сёння ўжо праводзіцца даволі вялікая праца па захаванні беларускай спадчыны — канцэрты, святы і гэтак далей.

За два апошнія гады мне давялося наведаць многія гарады Беларусі — Гродна, Віцебск, Мінск,.. таму што сувязі з Бацькаўшчынай нам патрэбныя як глыток свежага паветра. У першую чаргу, тутэйшым беларусам хочацца мець маральную падтрымку. Цудоўныя адносіны з рознымі беларускімі арганізацыямі, дзеячамі фактычна і нарадзілі многія нашы праекты. Мы тут не лічым, што Беларусь пра нас забылася. Выдаем сваю газету "Наша старонка" накладам 1 000 экземпляраў на камп'ютэрным комплексе, які атрымалі ад Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, арганізоўваем розныя культурныя мерапрыемствы.

— Спадар Пятро, наколькі я ведаю, у бліжэйшым часе каля вашага цэнтра будзе адкрыты помнік Кастусю Каліноўскаму. Гэта ініцыятыва менавіта цэнтра?

— Так. Сабралася рада нашай арганізацыі, і ўсе выступілі за дадзены праект. Думаю, гэта самая добрая прапаганда беларускасці сярод тутэйшых беларусаў. Дарэчы, на стварэнне помніка патрабуецца каля 400 мільёнаў рублёў. Прычым, гэта без уліку рублёвага крызісу. Фінансуе праект Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь. Робіць помнік Кастусю Каліноўскаму вядомы беларускі скульптар Валерый Янушкевіч.

— Кажуць, што менавіта адсюль, з Шальчынінкая, і пайшло свята беларускай песні?

— Не толькі свята песні. Але і беларускія цэнтры, напрыклад, "Вісагінас" і "Друскенеке", былі заснаваны пад уплывам нашай дзейнасці. Як вы ведаеце, цяпер у Літве цэлых пятнаццаць беларускіх суполак.

— Тым, як прайшоў III фестываль беларускай песні, вы задаволены?

— Безумоўна. Але я дагэтуль хапаюся за галаву, калі згадваю самы першы фестываль. Ён з'еў тры тысячы долараў, прычым тады дзяржава не дала ніводнай капейчыны. Уявіце, колькі давялося пабегаць, каб сабраць столькі грошай. Не падумайце, што я хвалюся. Вось нядаўна сваімі сіламі арганізавалі раённы агляд-конкурс беларускай песні, у якім узялі ўдзел больш за 100 спевакоў. Мне прыемна, што столькі мясцовых творцаў здолелі праспяваць па-беларуску. Сёння ў раёне пражывае 42 тысячы жыхароў, з іх пашпартных беларусаў не набярэцца і 10 працэнтаў. Хоць 50 працэнтаў ад усіх жыхароў раёна — гэта выхадцы з Беларусі.

— Беларускай школы ў Шальчынінкаі пакуль няма?

— Мы арганізоўваем факультатывы беларускай мовы, бо, дзякуй Богу, у нас ёсць выкладчыкі, якія прафесійна ёю валодаюць. У будучыні, канечне, хацелася б мець школу — гэта наша мара.



— Спадар Пятро, а што больш за ўсё хвалюе?

— На жаль, у нас няма прафесійнага фальклорнага гурта. Але спадзяюся, што ў бліжэйшы час гэты прабел ліквідуем. Нездарма ж мы зладзілі агляд-конкурс беларускай песні! Калісьці Янка Купала, Цётка пачыналі пісаць менавіта для беларусаў гэтага кутка. І таму мне вельмі карціць, каб усё вярталася на свае месцы. Як казаў асветнік Францішак Скарына: "Птушкі ведаюць гнёзды свае..."

**Зміцер ВОЛКАЎ.**

*ПОШУК*

# ДЫЯРЫУШ МІХАЛА ГАЛУБОВІЧА

Цікава, што акурат у гэты ж час быў забаронены і марцінкевічаўскі пераклад "Пана Тадэвуша", надрукаваны "польскімі" (лацінскімі) літарамі. Напрасткі гэта не звязана, відаць, з дзеяннямі Галубовіча, але нельга не адзначыць і розніцу ў пазіцыях царкоўнага іерарха і беларускага пісьменніка.

Зноў мясцовыя культурныя навіны. 19 кастрычніка: "Парадзінскі, скрыпач з Варшавы, вечарам іграў у мяне пад акампанемент Паўлоўскага на фортэп'яна. Даў яму гасцінца 10 р." 22 лістапада Галубовіч выпісаў рускую перыёдыку (найперш гэта знакаміты "Современник", а яшчэ "Русский вестник", "С.-Петербургские ведомости", "Художественный листок"), прыкладзены акуратны рахунак (увогуле грашыма Галубовіч лішне не раскідаўся, у сваім месцы адзначаны нават капеечны ганарар ужо згаданаму доктару Спасовічу за вырваны зуб).

Цікавыя, а часткова і унікальныя звесткі пра мастака-эмігранта Невяровіча-Тысевіча. 24 лістапада: "Учора Невяровіч-Тысевіч прынёс мне сваё выданне (Парыж, 1851) Міцкевіча "Конрад Валенрод" і "Гражына". Мусіў заплаціць 10 р.

Запрапанаваў яму намаляваць абразы для прыдзела кафедральнага сабора — у іканастас 4 вялікія і ў царскія вароты 6 за 250—300 руб. Даў яму меркі".

Праз дзень: "Невяровіч прынёс літаграфіі-факсіміле. Мусіў выбраць з іх 15 штук і заплаціць 15 р. Невяровіч цалкам французскі мастак-гандляр".

Такім чынам мы даведваемся пра знаходжанне ў Мінску мастака і грамадскага дзеяча Невяровіча-Тысевіча (1814—1888).

Як і многія іншыя ўдзельнікі паўстання 1831 года, Уладзіслаў Невяровіч у свой час эмігрыраваў. Жыў за мяжою пад імем Яна Тысевіча, атрымаў мастацкую адукацыю ў Вене і Мюнхене, працаваў у Парыжы. У 50-х гадах вярнуўся ў Вільню, потым зноў выехаў за мяжу. У 1851 годзе, рыхтуючы ў Парыжы багата ілюстраванае выданне "Гражыны" і "Конрада Валенрода" (ужо сама задума вельмі паказальная — гэта была рамантызаваная гісторыя Літвы-Беларусі), мастак папрасіў С. Манюшку зрабіць своеасаблівыя музычныя ілюстрацыі — напісаць музыку да фрагментаў з гэтых твораў. Каменціруючы гэтае пісьмо, вядомы сучасны польскі гісторык музыкі В. Рудзінскі піша: "Гэтае выданне, здаецца, не было рэалізавана, прынамсі, пра яго маўчыць [знакаміты бібліёграф] Корбут". А вось жа з дзённіка Галубовіча мы пераканаліся, што выданне рэальна існавала і распаўсюджвалася Невяровічам у Мінску.

Што характэрна, ведаючы біяграфію Невяровіча (яшчэ ў 1867 годзе Энцыклапедыя Аргельбранда не адважылася адкрыць сапраўднае прозвішча і паходжанне "Тысевіча"), уладыка не пабаяўся заказаць яму абразы для праваслаўнага сабора. Гэта сведчыць аб шырыні яго поглядаў і пэўнай талерантнасці. Ды і майстэрства мастака-эмігранта вабіла. Аб віртуозным умельстве Тысевіча пісаць палотны на рэлігійныя сюжэты сведчыць тая ж Энцыклапедыя Аргельбранда: яшчэ ў маладыя гады створаны мастаком абраз Марыі Магдалены праславіўся ці не на ўсю Еўропу. Гэтае жывапіснае палатно ("Пакуты Магдалены") успамінаў і Эдвард Паўловіч у сваім прачулым эсэ пра Невяровіча "З жыцця Ліцвіна", надрукаваным у кнізе "З-над Віліі і Нёмана" (Вільня, 1906), прысвечанай 50-годдзю з дня смерці А. Міцкевіча і Т. Зана.

Думаецца, што дзённік Галубовіча выкліча новую цікавасць нашых даследчыкаў да асобы Невяровіча-Тысевіча, да яго сувязяў з Беларуссю. Не выпадкова партрэт мастака-паўстанца, як сведчаць інвентарныя кнігі, захоўваўся некалі ў Беларускім музеі ў Вільні.

Для гісторыі фатаграфіі ранняга перыяду цікавыя звесткі дзённіка пра фатографа Брафмана (невядома — мясцовы ці аднекуль прыехаў). 27 лістапада: "Учора Брафман зноў здымаў у мяне фатаграф[ічныя] партрэты". 7 снежня: "Учора Брафману за партрэты, рамкі і 2 павелічальныя шклы заплаціў 105 руб." Мабыць, здымкі трэба было разглядаць праз павелічальнае шкло. Мець модныя, прэстыжныя здымкі так карцела, што Галубовіч адшкадаваў за іх немалыя па тым часе грошы.

У дзённіку за 1860 год сустрэліся звесткі яшчэ пра аднаго таленавітага прадстаўніка роду Ястржэмбскіх з усходняга беларускага Палесся (раней мы ведалі рэвалюцыянера-петрашэўца Ястржэмбскага і інжынера Ястржэмбскага, які не без таленту паспаборнічаў з самім Гогалем, напісаўшы новыя раздзелы "Мёртвых душ", прынятыя спецыялістамі за аўтэнтычныя). А былі, высвятляецца, і іншыя даравітыя прадстаўнікі гэтага роду. 6 сакавіка 1860 года Галубовіч запісаў: "Учора быў у мяне Ястржэмбскі з Бруселя, эмігрант, майстра фартэп'яна, а менавіта піяніна, за якія атрымаў на лонданскай выставе залаты медаль. Чалавек энергічны. Мае намер вярнуцца ў край, асесці ў Лоеве і заснаваць фабрыку. Ён вызваўся быць пасрэднікам у набыцці піяніна яго фабрыкі, якое знаходзіцца ў Бяляўскага (фартэпіянны майстар у Мінску. — **Г. К.**). Сёння я запрапанаваў даць за яго 300 р.: 150 цяпер і 150 у першых [днях] ліпеня, і ён згадзіўся. І так ізноў непатрэбны выдатак".

Невялікая даведка пра фартэпіяннага фабрыканта Фелікса Ястржэмбскага ёсць у "Польскім слоўніку біяграфічным". Высвятляецца, што ён быў бліжэйшым паплечнікам і нават "душапрыказчыкам" (калі скарыстаць старадаўняе слова) знакамітага Ляляеля, які таксама жыў у эміграцыі ў Бруселі. А вось наконт паходжання Ястржэмбскага аўтарытэтны слоўнік, бадай што, хібіць: "Паходзіў, здаецца, з Вільні..." Дакладнейшая ў гэтым сэнсе старая, заслужаная Энцыклапедыя Аргельбранда (т. 13, 1863): "...нарадзіўся ў 1805 годзе на Літве (у Мінскай губерні) і эмігрыраваў у 1831 годзе ў Брусель..." Дзённік Галубовіча пацвярджае, што Ястржэмбскі паходзіў з Лоева або ягоных аколіцаў. Дарэчы, не можам утрымацца, каб не прывесці яшчэ радочак — нязвыкла эмацыянальны — з Энцыклапедыі Аргельбранда: "Яго піяніна шукаюць па ўсёй Еўропе". Вось такі быў наш зямляк.

І яшчэ адна акалічнасць. Са знойдзеных нядаўна Язэпам Якушкевічам пісьмаў Дуніна-Марцінкевіча да Я. Карловіча стала вядома пра спробу ў 1860-х гадах надрукаваць творы нашага класіка ў Бруселі. Спрыяць гэтаму якраз мог уплывовы і досыць заможны зямляк Фелікс Ястржэмбскі.

Але вернемся да дзённіка Галубовіча. У той жа дзень, як быў зроблены запіс пра Ястржэмбскага (6.3.1860), уладыка пабываў у доме губернатара на канцэрце папулярных рускіх музыкаў братоў Мяшковых (віяланчэль і скрыпка). Яны былі прыгоннымі памешчыка Лярскага, што не забыўся адзначыць Галубовіч. Адзначана і такая характэрная дэталь: "З палякаў амаль нікога не было" (вынік тагачаснай раз'яднанасці грамадства).

Назаўтра ўладыка атрымаў магчымасць праверыць на практыцы набыты інструмент Ястржэмбскага: "Вечарам браты Мяшковы ігралі ў мяне пад акампанемент Паўлоўскага, а на змену іграў Гарун (?) на фартэп'яна. Новы інструмент выдатна вытрымаў выпрабаванне і заслужыў агульную пахвалу".

12 сакавіка Галубовіч быў на гарбаце ў нейкіх Васільевых, дзе ацаніў артыстычныя здольнасці мінскага кнігара Валіцкага (згадваўся на пачатку нашых нататкаў у цытаце з Зямкевіча сярод блізкіх знаёмых Дуніна-Марцінкевіча, ён — аўтар кнігі пра Манюшку, дзе расказаў і пра супрацоўніцтва кампазітара з Дуніным-Марцінкевічам). "Гэта чалавек вялікіх здольнасцяў,.. — адзначыў уладыка, — спяваў без канца і ўсё на памяць". З Валіцкім звязаны і запіс ад 3 красавіка. У гэты дзень на свята ўладыка сабраў у сябе гасцей: "Вечарам іграў Валентэці, даў яму 15 р. Спяваў Валіцкі — гасцей было да 80".

Яшчэ характэрны факт. 13 жніўня 1860 года: "Адпісаў на ліст рэктара С. Пецярбургскай академии художеств Бруні, што абраз Тройцы, чатыры гады таму заказаны для сабора, ужо намаляваны Ікавым..." (рускі мастак).

Нарэшце, калі я ўжо і спадзявацца перастаў, у дзённіку "выплыла" імя самога Дуніна-Марцінкевіча (а то мы ўсё хадзілі кругом ды навокал, то аддаляліся, то набліжаліся да галоўнай мэты нашых пошукаў). Галубовіч сябраваў з заслужаным адстаўным палкоўнікам Аляксандрам Фадзеевічам Шышкам, суседам нашага класіка па Люцынцы. І вось 16 жніўня 1860 года ўладыка паехаў да Шышкі ў госці ў маёнтак Скрундзеўшчына (цяпер Пяршайскі сельсавет). Адтуль завярнуў у недалёкія Доры. "Вярнуўшыся, заспеў колькі запрошаных суседзяў, у тым ліку Пятра Пляваку з Маскалёўшчыны, Комараў — бацьку і сына, беларускага барда Марцінкевіча, гарбатага, з Люцына і г. д. Апошні спяваў урыўкі з Żydka pieczatowanego". Пра артыстычныя здольнасці, як і пра сутуласць нашага песняра, было вядома і раней. А вось Żydek pieczatowany прымушае задумацца. Магчыма, гэта назва нейкага твора Дуніна-Марцінкевіча (ці не аперэта "Рэкруцкі яўрэйскі набор" маецца на ўвазе?). Падрабязней на гэтым Галубовіч, на жаль, не спыніўся. Больш зацікавіўся ўладыка Плявакам ("Ён служыў у войску. Чалавек вопытны, прадпрымальны"), запісаў некалькі яго практычных парадаў. "Пасля абеду хадзілі ў поле і да млынка. Мясцовасць вакол добрая, лясістая... Жылы дом зручны, чысты. Прымалі мяне — як нельга лепей і ад усяго сэрца". Потым, улагоджаны душэўным прыёмам, уладыка выехаў праз Старое Сяло ў Мінск.

Мы атрымалі дадатковы цікавы факт да жыццяпісу Дуніна-Марцінкевіча. Між іншым, палкоўнік Шышка і Комары як бліжэйшыя суседзі і прыяцелі нашага класіка згадваюцца ў яго паказаннях у следчай камісіі 1864 года.

Між тым азнаямленне з дзённікам блізіцца да завяршэння. Гартаем апошнія старонкі.

У лістападзе 1860 года Галубовіч пабываў у Вільні, наведаў вядомы музей старажытнасцяў. Пасля завітаў да археолага Э. Тышкевіча, які падараваў яму "Скарбец" І. Даніловіча (якраз толькі што выйшаў першы том гэтага каштоўнага дакументальнага выдання). Прысутнічаў і былы філамат, гісторык М. Маліноўскі, які ў размове сказаў: "...Еўропа падумае яшчэ аб утварэнні дзяржавы паміж Нёманам і Расіяй". Выходзіць, тагачасныя гісторыкі, знаўцы і даследчыкі мінулага, раздумвалі пра магчымасць узнікнення Беларуска-Літоўскай дзяржавы, спадчынніцы ВКЛ на новым гістарычным этапе. Галубовіч не выказаў у дзённіку прамых адносінаў да гэтых мараў, але асцярожліва зазначыў, што Маліноўскі з гадамі "стаў яшчэ больш баўбатлівым".

У сваім дзённіку Міхал Галубовіч паўстае неардынарным чалавекам з шырокімі культурнымі інтарэсамі і сувязямі. Добра было б з цягам часу выдаць гэты помнік нашай даўніны ці хаця б найбольш цікавыя мясціны з яго ў беларускім перакладзе.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 43.**

# ЛЮБІЦЬ РАДЗІМУ

## РОЗДУМ НАД ПАЭЗІЯЙ УЛАДЗІМІРА КЛІШЭВІЧА

Такім чынам, Уладзімір Клішэвіч шукаў сябе ідэйна і тэматычна. Хапаючыся адразу за featrознае, ён не мог засяродзіцца глыбока на жыццёвых праблемах, знайсці і выказаць філасофскую думку, даць вертыкальны зрэз рэчаіснасці. Многія яго радкі яшчэ гучалі рытарычна: "Край! Красуй маладосьцю сягоньня. Песьняй звонкай хай слава зьвініць! Беларусі ня быць у палоне! Беларусі рабыняй ня быць!" ("Паэту-змагару").

Шукаў сябе мастак і ў сферы агульначалавечага, хоць яшчэ і нясмела, але падчас адмаўляўся ад канкрэтыкі, каб убачыць тое, што робіцца на зямлі, з вышыні касмічнай і ў перакладах з Амара Хаяма, Метэрлінка, Катула...

Адзін з нямногіх, Клішэвіч ужываўся ў антычнасць, скарыстоўваючы даўнейшыя вершаваныя памеры. Так, у вершы "Пентаметры" зусім у духу антычнай медытатыўнай паэзіі раскрыты філасофскія праблемы вечнага і часовага, сапраўднага і ўяўнага, злачынства і адказнасці за яго, маўчання і слова як спосабаў філасофскай ацэнкі рэчаіснасці, дабра і зла, узаемаадносінаў адзінкі і калектыву, жыцця бязбеднага, лёгкага і жыцця-змагання. Кожны дыстых філасофскай элегіі (менавіта так можна вызначыць жанравую спецыфіку "Пентаметраў") будуецца на сутыкненні тэзісаў і антытэзісаў, паводле якога і выводзіцца філасофская думка. Ні адзін вобраз-дэталь не з'яўляецца ў гэтым мастацкім творы выпадковым, нішто не парушае агульнай логікі аўтарскага мыслення. Падобная гармонія ва ўсім — асноўны прынцып антычнага мастацтва.

**Людзям жаданьні прыходзяць надзвычай марудна:**
**Праца і час хутка прыблізяць да іх.**

**Прагнасьць вялікая лёгкай і таннай нажывы**
**Рана ці позна ўсё-ж кару знаходзіць сабе.**

**Шчасьце ня тое, у жыцьці хто не падаў ніколі,**
**Шчасьце — хто змог, упаўшы, падняцца ізноў.**

**Вечна маўчаньне вялікія родзіць ідэі на сьвеце,**
**Словам магутным ніяк нельга яго замяніць.**

**Толькі ты зробіш дабро чалавеку ў цяжкую хвіліну,**
**Гэта адплаціць табе ён платай праклёну і зла.**

**Людзі паднімуць на славу цябе аж да неба,**
**Людзі і кінуць у гразь, славу тваю аплюють.**

Даваенная і ваенная паэзія У. Клішэвіча, як і паэзія Алеся Салаўя, Рыгора Крушыны, не абмяжоўвалася адлюстраваннем тагачасных трагічных падзей, заклікамі да народа пераадолець іх. Мастакі шукалі гармонію на руінах і папялішчах вайны, думалі, як і іх папярэднікі, што прыгажосць уратуе свет. І Клішэвіч у гэта верыў. І таму яго зварот да Гётэ, да перакладаў з Катула, да пентаметра і гекзаметра з іх шырокім і свабодным дыханнем і ўшчыльненай сэнсавай напоўненасцю стаў формай супроцьстаяння трагічнаму часу, вынясення яму мудрага, недвухсэнсоўнага прысуду. Нагадаем, што ў гэты ж час Алесь Салавей — другі беларус-пакутнік — перакладаў "Іліяду" і "Калевалу", а ў 1947 годзе закончыў працу над "Песняй песняў Саламона" (у беларускай літаратуры гэты твор у перакладзе Васіля Сёмухі з'явіўся толькі ў 1994 годзе) і працаваў над паэмай "Пярсідская легенда" Рыгор Крушына.

Вершы У. Клішэвіча канца 40-х — 70-х гадоў засведчылі фармаванне новага варыянта яго стылю — адпаведнага больш медытатыўнай паэзіі, лаканічнага, нацэленага на афарыстычнасць, доказнасць, нягучную, "унутраную" эмацыянальнасць і спавядальнасць. Усе вершы Клішэвіча пасляваеннай пары як бы нанізваюцца на адзін стрыжань — яны прысвечаны тэме адчужэння, адлучанасці чалавека ад роднага краю, паказваюць невыноснасць такога становішча для душы аўтара. Падобны матыў пачаў гучаць яшчэ ў яго даваеннай паэзіі, затым узмацніўся ў творчасці ваеннага часу, але тады быў прыглушаны, гучаў адно ў нешматлікіх вершах пра калымскі край. Адзін з іх, што датуецца студзенем 1939 года, быў напісаны на прыіску Ат-Урах і запамінаецца двума апошнімі радкамі:

**Коні скачуць пад белаю пенай,**
**Капытоў чую д'ябальскі стук...**
**Лепей сам на душу сваю й цела**
**Налажу пальцы скованых рук.**

У іншым кантэксце гэтыя ж радкі гучаць у першай страфе, дзе дакладней вызначана сітуацыя, у якой аказваецца лірычны герой — аўтар твора, вязень сталінскага ГУЛАГа:

**Мне ў няволі жыццё надаела,**
**Сьмерць прыйму, як збаўленьне ад мук.**
**Лепей сам на душу сваю й цела**
**Налажу пальцы скованых рук.**

Калі перачытваеш пазнейшыя творы Уладзіміра Клішэвіча, думаеш, што, можа, ніхто з нашых мастакоў-эмігрантаў так пакутліва і так балюча не перажываў сваю адарванасць ад радзімы. Ягоны зборнік, выдадзены ў Мінску, называўся "Сняцца сны мне залатыя". І загаловак гэты быў не выпадковы: у эміграцыі для мастака жыццё ператварылася ў сапраўдны кашмар, у нешта трагедыйна-пачварнае, яму засталося толькі мінулае, тое, што было на Радзіме, што ўяўляецца толькі ў залатых снах, як нешта назаўсёды страчанае.

Боль па Радзіме — паслядоўны, напружаны, драматычны — праходзіць праз усе творы мастака, падпарадкоўвае сабе пафас усяе творчасці паэта. У сваіх пасапраўднаму трагедыйных творах Клішэвіч надзвычай дакладны і доказны. Часта доказ ідзе ад супрацiву і будуецца па схеме: "Каб... тады б не". Так пабудаваны вершы "Папярэджанне", "На чужыне", "Конь", "Сцягач", "Шумяць ад ветру кіпарысы ўсцяж..." і іншыя. Эфект мастацкасці ў іх дасягаецца прыёмам параўнальнага паралелізму (выкарыстаем такі "сінтэтычны" тэрмін): сваё (што ў мінулым) ідзе побач з чужым (што ёсць сённяшні дзень), перакрыжоўваючыся з гэтым чужым, адцясняючы яго на другую ці нават на трэцюю пазіцыю, хоць і не перакрываючы канчаткова. У многіх паэтаў-замежнікаў падобнага стабільнага, узаконенага паралелізму няма: там сваё і чужое існуюць аўтаномна, сваё становіцца дамінантным у вершах-успамінах пра родны край, чужое — у вершах пра чужыну. Бывае і так, што сваё, страчанае за даляглядамі, адыгрывае толькі ролю "давескаў" у творах. Клішэвіч паставіў і жыццё на Радзіме, і жыццё ў чужым краі на раўнапраўную аснову і даў чытачам магчымасць убачыць паўнату страты, якая можа спасцігнуць кожнага, хто пакідае Радзіму.

Адзначаныя асаблівасці паэзіі У. Клішэвіча выяўляюцца ў вершы "На чужыне" — творы, напісаным у форме маналога-выгуку, паводле параўнання рэальнага (сучаснага) і ўяўнага (былога) жыцця. Доказнасць і пераканальнасць аўтарскага пачуцця тут падкрэсліваецца прыёмамі паэтычнага сінтаксісу: спачатку ідуць разгорнутыя дададныя акалічнасныя сказы, ідуць адзін за адным, паступова нарошчваючы эмацыянальны напал: "Калі б пабачыў дзе на полі // Кароны пышныя дубоў, // Калі б аднойчы ў наваколлі // Зазелянеў радзімы бор, // Калі б трашчалі тут сарокі, // Спяваў вясною салавей", — а затым ідзе лаканічнае, як прысуд, — "Тады б і гэты край далёкі // Рабіўся крышачку мілей". Аднак паэт чацвёртай, заключнай страфой рашае дасягнуць яшчэ большага, падвойнага мастацкага эфекту пры дапамозе філасофсказначнай чатырохрадковай мінімедытацыі, што ў сваю чаргу (і гэта ўжо трэці круг дасягнення мастацкага эфекту) заканчваецца двухрадкоўем-інвектывай пра чужыну як вечнае рабства:

**Ды іх няма. Жыццё няміла.**
**Што мне з таго — калі б ды каб...**
**Дарма патрачаны ўсе сілы,**
**Я на чужыне вечны раб.**

Некалі Янка Купала ў вершах 1918 года "У дарозе", "Паязджане", "Бурапом", "У вырай" ("Зашумела нудна восень...") засведчыў, адлюстраваў тупіковасць сітуацыі, у якой апынулася Беларусь у перыяд грамадзянскай вайны, і адпаведны стан душы, якую нібы жыўцом закалочваюць у труну. Ідэнтычны стан душы адкрывае нам паэт-эмігрант Клішэвіч. Дзеля дасягнення эфекту праўдзівасці паказанага, выказанага ён адшуквае шэраг трагедыйных вобразаў-дэталяў (некаторыя з іх маюць карані ў рамантычным стылявым напрамку) — "духовая Сахара", "жыцця майго ламаная крывая", "апошні паўстанак", "цяжкія мукі бяззорнай начы", "над кручай стаім", "глытае час жыццё патокамі ракі", "выступала ў чорным каралева ночы", "народжаны — толькі госць", "цёмная ноч закалдоўвае цішу", "трывожныя сляды", "я — самы большы сцягач", "мора пустэчы", "песня... пасівела", "лёс безгалосы", "чорны птах", "пярун", "бліскавіцы", "чужая зямля", "застылая душа" і інш. Асобныя вобразы стыкуюцца з Купалавымі, што з'явіліся амаль на 50 гадоў раней. У вершы "Што на свеце людскія ахвяры...", як у Купалавых "Паязджанах", з'яўляецца сімвалічны вобраз дамавіны, падрыхтаванай для жывога трупа — лірычнага героя:

**Што на свеце людскія ахвяры...**
**Да ўсяго на зямлі я прывык.**
**Голас мой у духовай Сахары —**
**Прадсмяротны апошні крык.**

**Мне ўсё роўна, куды ні ідзём мы,**
**Над усім стаўлю кропку адну.**
**Чую, мне пахавальнік знаёмы**
**Забівае цвікі у труну.**

**Што з таго, што калісьці я марыў,**
**Безнадзейна мой промень знік.**
**Голас мой у духовай Сахары —**
**Прадсмяротны апошні крык.**

Верш гэты быў напісаны ў 1952 годзе, калі быў яшчэ абвострапы боль па страчаным.

Грунтоўная ацэнка чужабярэжнага, бесхаціннага жыцця прывяла паэта да крылатага чатырохрадковага выслоўя, якое можна прызнаць гімнам тых, каго драматычны лёс раскідаў па ўсіх кутках неабсяжнай планеты:

**Запавет на чужыне такі**
**Ад бацькоў пераходзіць к дзецям:**
**Іншаземныя маякі**
**Тваю ноч не асвецяць.**

У. Клішэвіч не толькі сумаваў удалечыні ад роднага краю — ён без яго проста хварэў, і хвароба гэтая была вострая і невыносная. Ён залечваў яе, як мог, але поўнасцю адужаць не здолеў. Не ўдалося яму акрыяць душой, узняцца над трагедыйнымі абставінамі і пасля наведання Беларусі.

Позняя паэзія Клішэвіча аднатанальная і аднажанравая. Гэта паэзія трагедыйнага гучання, што вольна ўкладваецца ў форму элегіі — твора сумна-балючага, спавядальнага, які ў апошні час набывае ўсё большыя адзнакі медытатыўнасці. Можа, якраз паэзія гэтага аўтара падказала Б. Сачанку — укладальніку арыгінальнага зборніка вершаў паэтаў-эмігрантаў і загаловак кнігі: "Туга па Радзіме".

Размова пра паэзію малавядомага ў нас аўтара была б няпоўнай і няшчырай, калі б мы не закранулі яшчэ адну праблему — як гэтую паэзію прадстаўлялі раней і прадстаўляюць цяпер, ужо ў перыяд галоснасці. Адразу скажам, што прэзентацыя яе чытачу адбылася дэфармаваная, у няпоўным аб'ёме. Можна зразумець выдаўцоў зборніка "Сняцца сны мне залатыя" 1973 года. Застой. Ідэалагічны націск Суслава і яго каманды. Нельга было, было проста немагчыма ў звязку з творамі пра тугу аб Радзіме ў той час даць твор "Беларускаму народу", датаваны 1942 годам і адрасаваны людзям, якія павінны прачнуцца, паверыць у сябе, успомніць слаўную гісторыю сваёй краіны:

**Закрывалі праўду, каб унук ня ведаў,**
**Закрывалі доўга ясны бляск зары.**
**Эх, устаньце, унукі, паглядзець на дзеда,**
**На яго магутнасць даўняе пары!**
**Разагніце плечы, распусьцеце крыльлі!**
**Узьляцеце горда сокаламі ўвысь!**
**Як любілі мову, як народ любілі,**
**Зашумеце славай, як дзяды калісь!"**

"Нацыяналістычнага пафасу", відаць, збаяліся ўкладальнікі зборніка 1973 года і не ўключылі ў яго верш "Учора праскамі разгубленай душы..." Вядома, немагчыма было ў брэжнеўскія гады змясціць у кнізе і вершы пра ГУЛАГ — "Мне ў няволі жыццё надаела...", "Ліст із Сібіры", "Адказ", "Паэту-змагару". Але чаму туды не ўвайшлі прытчападобны твор "Ноч", напісаныя ў мінскай турме вершы "Жураўлі", "Гусі"? Ствараецца ўражанне, што ўкладальнікі гэтай кнігі пабаяліся прадставіць Клішэвіча як мастака, апазіцыйна настроенага да таталітарнай дзяржаўнасці, як праціўніка нацыянальнага ўціску з любога боку.

У зборніку "Туга па Радзіме" спадчына Клішэвіча, вядома, магла быць прадстаўлена больш поўна — і ў тэматычных, і ў жанравых адносінах. Аднак складальнік і рэдактары кнігі на гэта не пайшлі, відаць, таму, што зноў-такі былі як бы зачараваныя загалоўкам кнігі, а можа, і з ідэалагічных перакананняў. Але ж чытач хоча ведаць творчасць пісьменніка ў поўным аб'ёме, ва ўсёй яе разнастайнасці, удалай і не зусім, вечнай і кан'юнктурнай:

**Як гублялася ў цемры дарога!**
**Завірухай яе занясло.**
**Не хапала і сіл у жывога**
**Выліць душу у горычы слоў.**

**Цяжкі лёд пад далонямі хруснуў.**
**Хмары зніклі ў паветры, як дым.**
**Засвяцілася радасць на вуснах —**
**Гэта мёртвы падняўся жывым.**

* * *

У. Клішэвіч — аўтар ліра-эпічнай паэмы "Васіль Каліна", выдадзенай асобнай кнігай у Лондане ў 1965 годзе. Твор гэты значны, але нашаму чытачу невядомы. На хвалі антыгулагаўскай літаратуры ён выглядае і сёння даволі прыстойна. І яго можна лічыць значным набыткам беларускага нацыянальнага паэтычнага эпасу.

У прадмове да кнігі — "Ад выдавецтва" — падкрэсліваецца эпічны характар твора, адзначаецца шырыня яго тэматычнага дыяпазону і храналагічных рамак: "Паэма з яе героямі ахоплівае фактычна ўсе фазы чалавечага жыцця, а пары юнацтва, так аблюбаванай мастацкай літаратурай усіх вякоў і народаў, аўтар прысвечвае асаблівую ўвагу". Таксама пішацца пра ўменне У. Клішэвіча абмалёўваць чалавечыя постаці, ствараць запамінальныя эпічныя характары.

З гэтымі выказваннямі можна цалкам пагадзіцца. Сапраўды, "Васіль Каліна" — гэта даволі ўдалая спроба паказаць лёс беларускага народа на пераломных этапах гісторыі, у складаныя, драматычныя перыяды жыцця краіны. У аснове паэмы пры ўсёй трагедыйнасці паказанага — гераічны пачатак, агульнанацыянальныя, агульнанародныя каштоўнасці. Падзеі ў паэме ахопліваюць значны прамежак часу. Тут паказаны пярэдадзень калектывізацыі і сама калектывізацыя, якая раскрываецца як акт вандалізму, генацыд супроць народа. У паэме выкрываюцца сталінізм, таталітарызм, чырвоны тэрор:

**Прастор сялянскіх сьпелых ніў**
**Ланцуг бязлітасна давіў.**
**З усходу вецер сьмерці веяў,**
**Прыносіў немач і пакуты,**
**На рукі клаў нямыя путы,**
**Губляўся сьлед жывых надзеяў.**

Паэма "Васіль Каліна" дае праўдзівы адбітак трагічнай эпохі сацыялістычнага будаўніцтва. Аўтар заходзіць як бы з другога боку — не з фасаду, а з тылу, дзе засталіся рыштаванні пасля гора-будаўнікоў, тыранаў-кіраўнікоў, дзе засталіся непрыбраныя бруд і смецце: як жа, спяшаліся, сядалі ў цягнік, што не спыняўся на прыпынках, а ляцеў проста ў цудоўную Краіну Камунію. І ў гэтай тэматычнай праўдзівасці, грамадзянскай смеласці мастака і заключаецца наватарства і непаўторнасць паэмы. Пазней Клішэвіч паддасца спакусе прымірэння і з брэжнеўскім застоем, і з парушэннем правоў чалавека ў савецкай краіне, але ў паэме "Васіль Каліна", відаць, не без уплыву "хрушчоўскай адлігі", ён надзвычай смелы і бескампрамісны:

**Твой дзень сягоньня — ноч і сажа,**
**Ахвяр бязвінная сям'я**
**Энкавэдэ заўжды прымажа**
**Якое-небудзь ім імя:**
**Шпіён ці змоўца-тэрарыст,**
**Радзімы здраднік ці фашыст.**
**Ня трэба сталінцам талантаў,**
**Да мэты цягнуць без аглядкі —**
**Пад ногі — цьвік, агню — пад пяткі.**
**І фабрыкуюць дыверсантаў.**

Паэма "Васіль Каліна" — значны набытак беларускага нацыянальнага паэтычнага эпасу, твор, з якога мы шмат даведваемся пра даваенную рэчаіснасць.

Уладзімір Клішэвіч, як і многія іншыя пісьменнікі — выгнаннікі за межы свайго роднага краю, нарэшце дастукаўся да нашых сэрцаў сваімі сумленнымі, крынічна чыстымі і светлымі творамі.

**Мікола МІШЧАНЧУК.**

Заканчэнне
Пачатак у № 43.

# ПРЫПЫНАК – «ЛЯ СЯДЗІБЫ ВАЯВОДЫ»



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

найлепшага ў свеце завода і дзвесце стральцоў аж дагэтуль абычаем панскім і мае сяцей сто вазоў у дварэ варанчанскім…

Гэта ўрывак з першай кнігі-быліцы "Гаспадарка". У думках можа ўзнікнуць пытанне, а што ж уяўляў сабой маёнтак Варонча ў часы Адама Міцкевіча?

Звернемся па дапамогу да Геаграфічнага слоўніка, які выдаваўся ў Варшаве ў XIX стагоддзі. Вядомы гісторык-энцыклапедыст Аляксандр Ельскі (1834—1916) у сваім допісе пра Варончу згадвае, што яго матэрыяльныя і культурныя каштоўнасці ў XVIII—XIX стагоддзях, распасціраліся над рэчкай Дарагоўкай, левым прытокам ракі Сэрвач, і належалі да Цырынскай гміны, за 28 вёрстаў ад Наваградка. Варонча выдзялялася сярод іншых паселішчаў тым, што знаходзілася ў надзвычай маляўнічай мясцовасці і мела мураваную парафіяльную каталіцкую бажніцу святой Ганны, якая была ўзведзена з фундацыі тагачаснага ўладальніка Юзафа Несялоўскага, апошняга наваградскага ваяводы. На яго ахвяраванні былі пабудаваны таксама капліцы ў такіх мясцінах, як Туганавічы, вёска Сэрвач і Казлы (Казловічы). Дарэчы, Несялоўскаму належала і мястэчка Цырын, дзе існавала уніяцкая бажніца, якая затым была пераведзена ў праваслаўную царкву. Сам Несялоўскі жыў доўга ў Варонцы, памёр у 1814 годзе, пахаваны быў у падзямеллях касцёла. Яму належаў пабудаваны ім прыгожы драўляны палац, у якім перахоўваліся памяткі старажытнасцяў краю і які быў аздобай усёй ваколіцы. Заслугоўвалі ўвагі і ўсе мураваныя будынкі прыгожай архітэктуры, сярод якіх дзяржаўнае сховішча каштоўнасцяў — скарбніца з гатычным аздабленнем. Усё гэта размяшчалася сярод вялізных ліпавых алей.

Аўтар сведчыць, што тут, у Варончы, з 1807 года жыў і працаваў паўнамоцны намеснік ваяводы Несялоўскага, вядомы даследчык славянскіх старажытнасцяў Адам Чарноцкі (1784—1825), які публікаваўся пад псеўданімам Зарыяна Даленгі-Ходакоўскага. Прыбыў ён сюды да 25 сакавіка і ад'ехаў адсюль да Омска.

Аляксандр Ельскі, пішучы пра Варончу і яе ўладальніка Юзафа Несялоўскага, упамінае таксама пра Адама Міцкевіча, які ўславіў гэты куток бацькаўшчыны ў сваім эпічным творы — паэме "Пан Тадэвуш", не прамінуўшы згадаць, што яго героі нярэдка тут бывалі.

Нарадзіўшыся непадалёку, я не раз тут бываў і любаваўся гэтымі унікальнымі памяткамі. Сапраўды тут было надзвычай прыгожа. На ўсё наваколле красавалася гатычная бажніца, якая звонку мела выявы гістарычных гербаў і іншыя памяткі аб багатай мінуўшчыне нашага краю. Дарэчы, у ёй быў ахрышчаны і Ян Чачот, шчыры філамат, яркая зорка беларускага Адраджэння.

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: палац ваяводы; варанчанскія дубы.**

**(З архіва аўтара).**



*ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# СПОВЕДЗЬ ДУШЫ БЕЛАРУСКАЙ

Хто не ведае гэтай песні?! Роздумна-засяроджанай і непазбаўленай лёгкасці, мудрай і жыццёвай:

**Даўніны незабыўны успамін**
**Прыгадваю сягоння**
**у журбе...**
**Што не зможаш адолець**
**адзін, —**
**Талака дапаможа табе!**

**Хай руку прывітае рука,**
**Хай усмешка прагоніць тугу.**
**Талака, талака, талака —**
**Наш вясёлы, няўрымслівы**
**гурт.**

Яна так і называецца — "Талака", а аўтарам з'яўляецца вядомы беларускі паэт (да ўсяго і эсэіст, публіцыст, які ў выдавецтве "Полымя" выпусціў некалькі год назад кнігу "Беларуская Амерыка") Леанід Пранчак. Ды і не толькі яе, а і такіх папулярных, як "Даставай, Яэп, гармонік", "Паклонніца", "Каля Чырвонага касцёла", "Сумны саксафон", "Цемнавокая пані"...

Ды хіба ўсе пералічыш, калі на творчым рахунку Леаніда Іванавіча аж 200 песень. І ўсё гэта плён супрацоўніцтва з такімі выдатнымі кампазітарамі, як Леанід Захлеўны, Валерый Іваноў, Эдуард Ханок, Зміцер Яўтуховіч. Ды і ваканаўцы падабраліся, вартыя таленту паэта: Іна Афанасьева, Якаў Навуменка, Анатоль Ярмоленка, ансамблі "Сябры", "Верасы", Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі.

Дарэчы, песні, у аснову якіх пакладзены вершы Л. Пранчака, на кружэлках і касетах атрымалі распаўсюджанне і за межамі Беларусі — у Расіі, Польшчы, Злучаных Штатах Амерыкі.

А на Беларусі ў Л. Пранчака выйшлі аўдыёальбом "Талака", кампакт-дыск "Галоўныя словы". Ён аўтар кніг "Ясак любові" (у калектыўным зборніку "Лагодны прамень"), "Першапутак". І вось чарговая — "Вольны птах" — у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" стала яе жніўеньскім зборнікам за сёлетні год. А паколькі паэту 12 лістапада 1998 года спаўняецца 40 гадоў, дык можна гаварыць, што гэта і свайго роду творчая справаздача.

На агледзіны ж Л. Пранчак прыйшоў з важкімі набыткамі, і гэта адчуваеш, калі знаёмішся з "Вольным птахам". Тым больш, што ў зборніку не толькі новыя вершы, а і тыя, што былі напісаны раней. Яны таксама сугучныя нашаму часу, бо Л. Пранчак даўно вызначыў асноўны накірунак сваёй творчасці — беларускасць. Беларускасць у самых розных яе праяўленнях.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ДЗЕ ЯШЧЭ СУСТРЭНЕШСЯ З ІМІ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

жыцці Вялікага Княства Літоўскага, дзесяць гадоў быў польскім каралём. Удзельнічаў у Лівонскай вайне, узяў Полацк, Вялікія Лукі, далучыў да Польшчы Лівонію. Заснаваў акадэмію ў Вільні. Заснавальнік дынастыі князёў гарадзенскіх.

На калектыўным партрэце "Барыс, Глеб і Мсціслаў" — князі-браты. Пад іх кіраўніцтвам была заснавана гарадзенская школа дойлідства ў XII стагоддзі. Самы адметны помнік, які яна пакінула, — Барысаглебская царква (знакамітая Калоша) на высокім беразе Нёмана. Яна значыцца ў сусветным спісе самых каштоўных архітэктурных збудаванняў.

Аляксандр Ягелончык, як і яго бацька вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і кароль Польшчы Казімір IV, быў адным з самых яркіх прадстаўнікоў дынастыі Ягелонаў. Аляксандр таксама быў вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага і каралём Польшчы (1492—1506). Ён шмат зрабіў для ўмацавання сваёй дзяржавы, а для Гродна ў 1496 годзе выдаў у Берштах прывілей на магдэбургскае права.

"Помніць горад твой меч". Такія словы значацца пад партрэтам Давыда Гарадзенскага (памёр у 1326 годзе) — дзяржаўнага дзеяча, палкаводца, старасты Гродна, каштэляна (каменданта) Гродзенскага замка. І не выпадкова: Давыд Гарадзенскі атрымаў нямала перамог над крыжакамі, у прыватнасці, пад Навагрудкам, удзельнічаў у Грунвальдскай бітве, хадзіў паходамі на чале войска Вялікага Княства Літоўскага на Прусію, Мазовію, Брандэнбург.

Каралева Бона Сфорца (яе партрэт на здымку) — жанчына і асоба, у гісторыі вельмі цікавая і значная. Прыгожая знешне, надзеленая дасціпным розумам, каралева Рэчы Паспалітай, жонка вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага і караля Польшчы Жыгімонта І Старога, яна вельмі паспрыяла эканамічнаму ўмацаванню дзяржавы. Прыбрала да сваіх рук многія землі, у тым ліку Гродзенскае, Кобрынскае, Пінскае і іншыя староствы, нямала маёнткаў. Яе думкі леглі ў аснову аграрнай рэформы ў Вялікім Княстве Літоўскім — "Устава на валокі", прынятай сынам Боны вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага Жыгімонтам ІІ Аўгустам, сталася карысным законам у рэарганізацыі землекарыстання і падаткаабкладання, першым заканадаўчым актам аб ахове прыроды.

І яшчэ два адметныя мужы ўнеслі ў развіццё Гродна неацэнны ўклад. Жылі яны ў адзін час, рабілі сваю высакародную справу.

Антоній Тызенгаўз (1733—1785), важны палітычны і дзяржаўны дзеяч на тэрыторыі Беларусі і Літвы, гродзенскі староста, дужа паспрыяў развіццю горада і яго прамысловасці. Па яго ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле забудавана Гарадніца — цэнтральная частка горада. На вуліцы Ажэшкі да сёння захавалася частка з тых дваццаці дамоў, што прызначаліся для наёмных майстроў, закліканых працаваць на каралеўскіх мануфактурах.

Мануфактуры таксама створаны ў другой палове XVIII стагоддзя. Вось якія былі вытворчасці: суконная, панчошная, гарматная, ружэйная, металургічная, гарбарная, золататкацкая, дывановая, металічных вырабаў, шаўкаткацкая, тонкасуконная і іншыя. Праіснавалі яны да канца стагоддзя.

Так і засталіся яны ў гісторыі пад назвай — дамы Тазенгаўза, мануфактуры Тызенгаўза. Яшчэ — тэатр Тызенгаўза, створаны прыкладна ў 1770 годзе. А яшчэ — медычная школа, кадэцкі корпус.

Вызначаюцца ініцыятывы Тызенгаўза вялікім укладам у развіццё горадабудаўніцтва і прамысловасці. Як зазначыў прафесар У. Чантурыя, дамы Тызенгаўза — "першая на Беларусі комплексная забудова горада тыповым маламетражным жыллём з новымі канструкцыямі і эканамічным спалучэннем розных будаўнічых матэрыялаў". А мануфактуры — фактычна першыя капіталістычныя прадпрыемствы на нашай зямлі.

Жак Жылібер, французскі вучоны, загадваў медыцынскай акадэміяй у Гродне (з 1775 года). Ён заснаваў у горадзе клінічны шпіталь, акушэрскую і ветэрынарную школы, спрыяў стварэнню батанічнага саду.

Экспануюцца і іншыя партрэты вядомых гістарычных асоб, напісаныя У. Качаном. Вельмі добра, што ўсе гэтыя людзі, якія жылі ў розных стагоддзях, сышліся пад адным дахам. Наведвальнікі могуць "сустрэцца" з імі, глянуць на іх разумныя і мужныя твары, яшчэ раз пераканацца, якая багатая наша Беларусь на таленты, на патрыётаў роднай зямлі. І будуць, несумненна, удзячныя мастаку за яго такую патрэбную нашым сучаснікам працу.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы У. КАЧАНА "Стэфан БАТОРЫ" і "Каралева Бона СФОРЦА".**





# ВЫГАДНАЕ ЎКЛАДАННЕ ГРОШАЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

вачах грамадскасці і ў яго ўласных вачах".

Саюз народных майстроў Беларусі існуе 6 гадоў. За гэты тэрмін ён шмат разоў вызначаўся адметнымі справамі. Дарэчы, штат саюза — два чалавекі. Астатнія працуюць на энтузіязме. Міністэрства культуры падтрымлівае Саюз народных майстроў тым, што выдзяляе грошы на канкрэтныя праекты ў галіне культуры. Так, на свята-конкурс лозапляцення, па словах прадстаўніка Міністэрства культуры Тадэвуша Стружэцкага, было выдзелена 200 мільёнаў беларускіх рублёў. Ён жа падкрэсліў на прэс-канферэнцыі для журналістаў, што лічыць укладанне грошай у сферу развіцця народнага мастацтва вельмі выгадным для дзяржавы. Наогул, Міністэрства культуры зацвердзіла 10 спецыяльных прэмій за асабісты ўклад у развіццё нацыянальнай культуры. Штогод 10 творцаў ці мастацкіх калектываў атрымліваюць ад Міністэрства культуры стыпендыю. Тым не менш грошай, каб зняць прафесійны відэафільм, зрабіць каталог па выніках конкурсу, няма. А шкада, бо менавіта такія захады маглі б не толькі папулярызаваць беларускія рамёствы, але і дапамагаць майстрам знаходзіць канкрэтных пакупнікоў іх вырабаў. Гэта было б выгадна і дзяржаве таксама. Купляпродаж ажыццяўляецца па





пэўных законах, зразумела. Нарматыўная база ў галіне народнага мастацтва існуе. Ёсць Палажэнне аб Доме рамёстваў, аб народным майстры. Але яно прытрымліваецца, бо больш двух гадоў разглядаецца Закон аб народных промыслах і рамёствах. Тадэвуш Стружэцкі лічыць, што тут сутыкнуліся інтарэсы прамыслоўцаў і тых, хто ўпэўнены, што народнае мастацтва павінна развівацца ў традыцыйным накірунку. "Мы лічым, — падкрэсліў Тадэвуш Стружэцкі, — што прадпрыемствы, якія займаюцца вырабамі сувенірнай прадукцыі, павінны менш арыентавацца на кітч, а больш дакладна выкарыстоўваць традыцыйныя віды, прыёмы рамёстваў".

Свята, арганізаванае Саюзам народных майстроў, было сапраўды адметным. Прыстойная канцэртная праграма, цікавыя і прыгожыя вырабы з лазы — на продаж. Галоўнае — магчымасць убачыць сваімі вачыма, як нараджаюцца яны ў руках майстроў, простых людзей з Божай іскрай, якія прыехалі з усёй Беларусі. Змаглі, дарэчы, пакінуць сваю гаспадарку. Мне было толькі шкада, што гледачоў на свяце было не так шмат. Ведаеце, дзе былі людзі? На Кастрычніцкай плошчы (гэта каля Палаца прафсаюзаў): гарадскія ўлады арганізавалі кірмаш. Было там усё: ад гадзіннікаў і вопраткі да дэфіцытных сёння яек. Людзі сталі ў чэргах. І хай сабе прайсці да выставы было адтуль 20 метраў, але ж калі ты выстаяў у чарзе за свінінай, потым купіў пару качаноў капусты, ці да мастацтва табе? Можна скардзіцца на тое, што ў грамадстве нізкі ўзровень культуры. Але рэальнасць такая: большасць з людзей створаны так, што не цікавіць іх мастацтва, калі яны думаюць, як накарміць сям'ю. І з гэтым нельга не лічыцца.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі конкурсу: Наталля САЛАНЕНКА з вёскі Новыя Валасовічы Лепельскага раёна; Сяргей СЯДУН з горада Любань.**

**Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.**

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

**У наступным нумары "Голасу Радзімы" на звычайным месцы вы ўбачыце прозвішча новага рэдактара. Час і абставіны вымушаюць мяне пакінуць рэдакцыю газеты, якой аддаў больш трыццаці год свайго жыцця. Хачу развітацца з вамі, мае чытачы. Многіх і многіх з вас я ведаю асабіста, многіх — па перапісцы, з многімі сябрую. Скажу шчыра: ваша слова, ваша думка былі і для мяне, і для ўсёй рэдакцыі вышэйшым крытэрыем у ацэнцы нашай працы. Мы ведалі, што робім газету для вас. Мы не імкнуліся дагадзіць усім і кожнаму, мы хацелі толькі як мага больш аб'ектыўна інфармаваць вас пра падзеі ў Беларусі, даваць духоўны пажытак, будзіць думку.**

**Хачу пажадаць вам толькі добрага і светлага ў жыцці і адданасці нашай Радзіме.**

**Верце ў Беларусь!**

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

# СПОВЕДЗЬ ДУШЫ БЕЛАРУСКАЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Беларускасць — як катэгорыя маральная, этычная і, нарэшце (гэта можа падацца дзіўным), палітычная. Бо ад таго, наколькі грамадства адчувае сябе нацыянальна-годным, свядомым, залежыць і павага да яго сярод іншых народаў.

Шлях да беларускасці — шлях няпросты. Яго і праходзіць лірычны герой паэта — у нечым сумняваючыся, штосьці адмаўляючы, але, безумоўна, усё больш беручы для сябе і ...аддаючы іншым. Бо калі чытаеш вершы Л. Пранчака, і сам напаўняешся яго любасцю да ўсяго, што наўкола цябе і што можна вызначыць емкім і шматзначным словам — Беларусь!

У адным з вершаў ёсць і такое прызнанне:

**Трызнячы ад болю на зары,**
**Як прароцтва, я прысніў нагдове:**
**З Богам гавару на роднай мове.**
**Мне б яшчэ з людзьмі пагаварыць.**

Гэтыя радкі так уразілі вядомага паэта, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа, тонкага знаўцы паэзіі Віктара Гардзея, што ў загаловак свайго ўступнага артыкула да кнігі ён вынес менавіта гэтае: "З Богам гавару на роднай мове..." і адначасова зазначыў: "...ёсць у даволі маладога яшчэ творцы мноства паэтычных строф, што ніколі не стануць песнямі і нават не задумваліся як песні, аднак усе яны вызначаюцца душэўнай дабрынёй, адкрытасцю інтанацый, чысцінёй пачуццяў, хоць інакш і быць не можа, калі гэтыя пачуцці запальваюцца ад нязгаснага свячэння таямнічай божай іскры".

"Божая іскра" і ў вершы "Беларускія душы". Калі чытаеш яго, міжволі згадваеш лепшыя ўзоры паэзіі тых, хто не па сваёй волі пакінуў Беларусь. Яны таксама імкнуліся спасцігнуць сутнасць "беларускіх душ", і гэта ім, як вядома, удавалася, калі яны ішлі ад уласна пражытага і перажытага. Л. Пранчак, зразумела, кіруецца іншым шляхам. Тыя думкі, што леглі ў аснову твора, з'яўляюцца таксама падчас роздуму. Але гэта роздум не аб сваім лёсе, роздум аб лёсах іншых людзей. Ды лёс лірычнага героя з імі таксама самым цесным чынам звязаны.

А паколькі яшчэ не ўсе пазнаёміліся з кнігай "Вольны птах", думаецца, варта гэты верш працытаваць цалкам. Каб запомніўся ён. Ды і каб пераказам не "парваць" тую асноўную ніць, якая і надае твору цэласнасць, завершанасць, непаўторнасць:

**Страта роднай душы — больш, чым страта.**
**Кожны з нас на зямлі толькі госць.**
**Смутку вострай стралою працяты**
**Маё сэрца і думкі наскрозь.**
**Быццам з восеньскіх дрэў ападае**
**Залатая самота лістоў, —**
**Сірацее Айчына, — губляе**
**Самых верных і шчырых сыноў.**

**Хоць па іх родны край не галосіць,**
**Што паробіш: такая юдоль...**
**Золкі вецер, як попел, разносіць**
**Беларускія душы і боль.**

**На радзіме — Пакровы і межань.**
**Сцеле шэрань бялюткі абрус.**
**Хай прысніцца ім Нёман і Свержань.**
**І сівая, як лунь, Беларусь...**

А верш "Роднасць" — пра паяднанне душ, пра тое, што "беларус беларуса пазнае ад радзімы за тысячу вёрст!" А што гэта і на самай справе так, Л. Пранчак мог (і неаднойчы) упэўніцца сам. І аб'ездзіўшы нашу краіну, як кажуць, уздоўж і ўпоперак, і шмат бываючы за мяжой, і жывучы ў ЗША. Ды дзе б ні знаходзіўся, памятаў аб родным куце, аб тых, каго пакінуў. А яшчэ спагаду і ўзаемаразуменне знаходзіў, сустракаючы роднасныя душы:

**Зведаў шчасця і суму нямала**
**Я ў далёкай краіне чужой...**
**Дзе б ні быў я, — са мною Купала,**
**І Максім Багдановіч са мной.**

**Ростань душы самотай яднае.**
**Па-за роднай бацькоўскай зямлёй**
**Беларус беларуса пазнае**
**Па любві да старонкі сваёй!**

Шмат у кнізе вершаў пра каханне. Традыцыйныя не толькі па форме, а ў нечым і па зместу, яны разам з тым пакідаюць у душы чытача глыбокі след, бо ўсё, што піша Л. Пранчак, — шчырае, адкрытае і даверлівае. Яго лірычны герой, як і, бадай, кожны, імкнецца да звычайнага чалавечага шчасця. І гэта даецца няпроста, і тут ужо нічога не зробіш — такое жыццё...

Паэт параўноўвае сябе з вольным птахам, надаючы гэтаму вобразу глыбокі сэнс, аб чым сведчыць тое, што менавіта такія радкі ўзяты да кнігі эпіграфам:

**Жыву, як вольны птах,**
**Між небам і зямлёй.**
**Згубіў усякі страх,**
**Ды не знайшоў спакой.**

**Вось так: ні там, ні тут.**
**Здаецца ява сном.**
**У Менску родны кут.**
**На небе родны дом...**

Ды гэты "вольны птах" часта спускаецца на грэшную зямлю. І кожнае вяртанне на яе — зварот да свайго, роднага. І гучыць споведзь душы. Споведзь душы беларускай...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1956.
Падпісана да друку 2.11.1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.